**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№2(666)**
**10 студзеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



*Фота Ул. Скрабатун.*

**На возеры Кагальным – добры клёў!**



# У Глыбокім рыхтуюцца да першага Вішнёвага фестывалю

**Першы ў Беларусі Вішнёвы фестываль плануецца правесці сёлета ў горадзе Глыбокае Віцебскай вобласці.**

Як паведаміла БелаПАН інструктар па турызме аддзела фізічнай культуры, спорту і турызму Глыбоцкага райвыканкама Ала Вярцінская, фестываль пройдзе ў перыяд з 15 ліпеня па 1 жніўня. «Канкрэтная дата яшчэ не вызначана. Будзем глядзець, калі пачне выспяваць ягада», – растлумачыла яна.

«Глыбокае заўсёды славілася як горад садоў. Да нас пастаянна прыязджаюць пакупнікі і нарыхтоўшчыкі вішні з Мінска, Полацка, Віцебска і іншых гарадоў, – сказала Вярцінская. — У нас растуць дзіўна смачныя вішні, салодкія, як чарэшня, але зімастойкія. Мясцовыя жыхары называюць іх Лапыровыя: яшчэ да вайны гэты гатунак вывеў глыбоцкі садавод Баляслаў Лапыр. На падставе вішні гэтай селекцыі выведзены многія беларускія гатункі ягады. У нашым горадзе вішнёвыя сады ёсць амаль на кожным падворку. Буйныя сады раслі раней і ў мясцовых манастырах».

Паводле задумы арганізатараў, свята адкрыюць вішнёвы марш і выбар вішнёвай каралевы. Чакаюцца самыя розныя мерапрыемствы, так ці інакш звязаныя з гэтай папулярнай ягадай: тэатральны форум «Вішнёвы сад», спаборніцтва кулінараў, фотаконкурс, конкурсы ландшафтных кампазіцый, ікебаны, сувеніраў, цырульніцкага майстэрства, песень, гумарыстычныя конкурсы на хуткаснае паяданне вішні, па стральбе костачкамі, пленэр юных мастакоў, міжнародны кірмаш.

«Акрамя таго, плануецца закласці вішнёвы сад, дзе будуць пасаджаны ўсе магчымыя гатункі гэтай культуры, якія толькі ўдасца прывезці з розных краін. Хутчэй за ўсё, гэты сад будзе закладзены за два кіламетры ад Глыбокага, побач з дэндрапаркам мясцовага лясгаса, – паведаміла Вярцінская. – Дарэчы, гэты дэндрапарк уваходзіць у лік помнікаў прыроды рэспубліканскага значэння. Па прыгажосці і відавой разнастайнасці драўнінна-хмызняковой расліннасці ён саступае толькі мінскаму батанічнаму саду».

Правядзеннем вішнёвага фестывалю арганізатары маюць намер стымуляваць развіццё садаводства, стварыць новы брэнд свайго рэгіёну і пазіцыянаваць Глыбокае як цэнтр падзейнага турызму, дзе пастаянна адбываецца штосьці новае і цікавае.

«У 2012 годзе ў Глыбокім прайшоў Дзень беларускага пісьменства, у 2014-м горад будзе адзначаць 600-годдзе. А сёлета ніякіх асаблівых дат, звязаных з гісторыяй і культурай нашага горада, няма, вось мы і вырашылі арганізаваць новы фестываль», – адзначыла прадстаўнік райвыканкама.

З праектам «Вішнёвы фестываль» Глыбоцкі райвыканкам удзельнічаў у рэспубліканскім конкурсе творчых работ па прасоўванні гарадоў і рэгіёнаў краіны, які праходзіў у снежні ў межах III міжнароднага форуму «Імідж Рэспублікі Беларусь: час дзейнічаць», і заняў на ім другое месца.

*Т. Мацвеева, БелаПАН.*

# Мінімальная зарплата павышана да 1 млн. 395 тыс. рублёў

**У новым годзе ў Беларусі павышана мінімальная заработная плата. З 1 студзеня яна складае 1 млн. 395 тыс. рублёў. Гадзінная мінімальная зарплата ўстаноўлена ў памеры 8 тыс. 340 рублёў.**

Папярэднім разам «мінімалка» павялічвалася год таму. 1 студзеня 2012 года яна была ўстаноўлена ў памеры 1 млн. рублёў, гадзінная мінімальная зарплата — 5 тыс. 930 рублёў.

Павышэнне гэтых паказчыкаў прадугледжана пастановай Савета міністраў ад 13 снежня, паведаміла прэс-служба ўрада.

Памер мінімальнай зарплаты, устаноўлены заканадаўствам і праіндэксаваны, з'яўляецца абавязковым для наймальніка ў якасці ніжэйшай мяжы аплаты працы работнікаў — гэта рэгламентавана законам «Аб вызначэнні і парадку павышэння памеру мінімальнай заработнай платы».

*Марына Носава, БелаПАН.*

**З Новага года ў Беларусі на 20% падаражэлі мабільная сувязь і доступ у інтэрнэт.**

# Мабільная сувязь і доступ у інтэрнэт падаражэлі на 20%

**Гэта прадугледжана законам аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Падатковы кодэкс ад 26 кастрычніка 2012 года, які адмяніў ранейшую льготу па падатку на дададзены кошт для ўсіх аператараў мабільнай сувязі. Такім чынам, цяпер да кошту паслуг сувязі для фізічных асоб дададзены 20-працэнтны ПДК.**

У Міністэрстве фінансаў разлічваюць, што адмена льгот па ПДК «забяспечыць дадатковыя паступленні гэтага падатку ў бюджэт пры нязначным павелічэнні расходаў насельніцтва».

На пачатак 2012 года агульная колькасць абанентаў сотавай сувязі ў Беларусі складала 10,7 мільёна.

Паслугі сотавай рухомай электрасувязі ў краіне аказваюць чатыры аператары: тры ў стандарце GSM (ЗП «Велком», СТАА «Мабільныя ТэлеСістэмы», ЗАТ «БеСТ»), адзін у стандарце IMT-MC-450 (СП ТАА «БелСел»).

*БелаПАН.*

# Падзяка

Выказваем велізарную ўдзячнасць і нізкі паклон усім добрым людзям, якія дапамаглі нам у нашай бядзе.

*Сям'я Пачкоўскіх.*

## Мёрскі раён

# Спажыўца не падманеш

■ Станіслаў Раманчук

**Нарэшце і да айчынных упраўленцаў дайшло, што, каб быць канкурэнтназдольнымі на рынках, неабходна і на месцах паўсюдна правесці мадэрнізацыю існуючых вытворчасцей.**

У калектыве ААТ "Мёрскі мясакамбінат" такія задачы пачалі вырашаца яшчэ некалькі гадоў назад і ўжо ўдалося абнавіць абсталяванне ў асноўных цэхах імпартнымі аналагамі. У выніку на камбінаце летась поўнасцю абнавілі свой асартымент выпускаемай прадукцыі, зрабілі стаўку на высокую якасць. Гэта адразу заўважылі і спажыўцы, і спецыялісты. Напрыканцы мінулага года мясаперапрацоўшчыкі з Мёр сталі пераможцамі міжнароднай спецыялізаванай выставы "Белагра-2012" у намінацыі "Выбар спажыўца" за сваю вараную каўбасу "Дактарская". Любімы яшчэ за савецкім часам прадукт тут выпускаюць як у штучнай, так і ў натуральнай абалонцы. У райцэнтры пачалі выраблядь увогуле каўбаскі без звыклай упакоўкі толькі ў герметычных формах, якія зручна браць на працу альбо пры выездах на прыроду. Яшчэ адна навінка мясцовых тэхнолагаў - гэта запечаны па арыгінальнай тэхналогіі паштэт з печанню з лёгкім дымком, які таксама прыйшоўся па густу спажыўцам. За першы месяц яго рэалізавалі 1,5 тоны, што з'яўляецца нядрэнным паказчыкам для новай прадукцыі. Знайшлі сваіх пакупнікоў таксама і мясныя ахаладжаныя паўфабрыкаты і прадукты ў жэле, падобныя на любімыя беларусамі халадцы. Дарэчы, і мясныя далікатэсы тут спецыяльна стараюцца выпускаць у натуральнай абалонцы з кішок і карыстаюцца рэцэптамі іх прыгатавання, якія прыдумалі нашы продкі.

## Глыбоцкі раён

# Стрэлы ... у магазіне

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам сярод беларусаў распадаецца, на жаль, палова зарэгістраваных шлюбаў, а колькі яшчэ сямейных пар сварацца, пакідаюць сіротамі дзяцей пры жывых бацьках.**

А вось 40-гадовы качагар адной са школ Глыбоцкага раёна таксама развітаўся са сваёй каханай жанчынай, з якой жыў, праўда, толькі ў грамадзянскім шлюбе. Адносіны іх разладзіліся, і грамадзянская жонка пераехала жыць у суседні Пастаўскі раён. Мужчына тым не менш, падобна на тое, балюча перажываў такі разрыў і зімовым днём з'явіўся ў вёсцы Свіраны. Высвятленне адносін паміж былымі блізкімі людзьмі набыло дзіўны характар. Размова праходзіла там у мясцовым вясковым магазіне. Сужыцель не знайшоў іншых аргументаў, як падмацаваць сваю пазіцыю і рашымасць сваёй зарэгістраванай паляўнічай стрэльбай. Ён стаў пагражаць жанчыне забойствам і нават стрэліў па вітрыне з размешчанымі на ёй таварамі. У той дзень прыйшлося закрыць нават мясцовую школу і схаваць дзяцей у адным з класаў, бо ўсе баяліся з'яўлення там раз'юшанага стралка. Але, на шчасце, далейшага высвятлення адносін не адбылося. Жанчына нейкім чынам пераканала свайго няпрошанага госця супакоіцца, і ён сеў у сваю машыну і паехаў дадому. Праўда, аб здарэнні ўжо ведалі ў міліцыі, была ўведзена аперацыя "Перахват" і праз некаторы час на тэрыторыі Глыбоцкага раёна на дарозе стралка затрымалі. За пагрозу забойствам па ўзбуджанай крымінальнай справе ён можа нават на паўгода пасядзець пад арыштам, абдумаць там свае паводзіны, бо кантраляваць свае эмоцыі і крыўды неабходна ўсё ж цывілізаваным чынам.

## Пастаўскі раён

# Алімпійскі сцяг райцэнтру

■ Кастусь Александровіч

**Адразу ў шасці гарадах краіны і ў беларускай сталіцы напрыканцы мінулагагодапрайшлачарговая рэспубліканская акцыя "Алімпізм і моладзь", якую арганізавалі НАК Беларусі, Міністэрства спорту і турызму РБ, шэраг іншых рэспубліканскіх арганізацый.**

На Віцебшчыне гонар яе прыняць быў аказаны Паставам, як аднаму з самых спартыўных рэгіёнаў краіны. Менавіта летась гэты раён заняў 3-е месца ў нацыянальным аглядзе-конкурсе на лепшую арганізацыю спартыўна-масавай работы і апярэдзіў многія больш буйныя гарады. А падчас акцыі цэлы дзень у розных кутках горада праходзілі розныя мерапрыемствы. З навучэнцамі прафкаледжа сустрэўся віцяблянін, шматразовы чэмпіён свету і Еўропы, сярэбраны прызёр гульняў Маскоўскай Алімпіяды па класічнай барацьбе Ігар Канигін. У дзіцячым садзе "Крынічка", дзе пабудавалі плавальны басейн для малышоў, прайшло спартыўнае свята "Малыя алімпійскія гульні". Акрамя "Спартландыі" ў СШ №1 прайшоў семінар са спартыўнымі работнікамі, вядучыя трэнеры нацыянальных зборных РБ правялі майстар-клас у ДЮСШ. Гасцям спадабаліся паказальныя выступленні выхаванцаў мясцовага клуба каратэ "Азімут", аднаго з вядучых у Беларусі. Паставытаксамасённяносяць званне чэмпіёнаў Беларусі па валейболе ў 1-й лізе, што і даказалі пераканаўчай перамогай у таварысцкім матчы са зборнай Акадэміі фізкультуры і спорту. Летась тут атрымала новы статус і першая ў краіне футбольная акадэмія ПМЦ. Завяршылася акцыя відовішчным спартыўна-тэатралізаваным прадстаўленнем на сцэне мясцовага Палаца культуры.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 10.01.13 | | | | Пятніца 11.01.12 | | | | Субота12.01.13 | | | | Нядзеля 13.01.11 | | | | Пнд14.01.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -4 | -4 | -3 | -1 | -1 | -1 | -2 | -2 | -4 | -4 | -4 | -5 | -8 | -8 | -7 | -6 | -8 | -7 | -8 |
| Ціск | 743 | 739 | 736 | 733 | 733 | 734 | 736 | 738 | 741 | 743 | 745 | 747 | 748 | 749 | 751 | 752 | 754 | 754 | 754 |
| Вільготнасць | 82 | 84 | 88 | 92 | 91 | 93 | 91 | 92 | 92 | 91 | 85 | 90 | 91 | 89 | 88 | 78 | 81 | 85 | 84 |
| Вецер м/сек | 4 Пд-З | 6 Пд | 7 Пд | 7 Пд | 5 Пд | 6 Пд-У | 4 Пд-У | 4 Пд-У | 3 Пд-У | 2 Пд-У | 3 У | 1 У | 3 Пн-У | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 3 Пд-У | 2 У | 2 Пд | 3 Пд |

# Аб самым надзённым

## У ГОД БЕРАЖЛІВАСЦІ ДЗЯРЖАВА ПАЧНЕ ЭКАНОМІЦЬ, А СУАЙЧЫННІКАМ ЗНОЎ АБЯЦАЮЦЬ СВЕТЛУЮ БУДУЧЫНЮ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Як нам сталі тлумачыць, сёлета на першы план таксама выходзіць жорсткая дысцыпліна, а вось мадэрнізацыя закране не толькі айчынную прамысловасць, але таксама і аграпрамысловы комплекс, сферу будаўніцтва і нават сацыяльную сферу.**

**Беларусь пачне нарэшце эканоміць, каб рабочыя і служачыя, вяскоўцы ды і ўвогуле ўсе мы сталі яшчэ больш багацейшыя.**

Неяк непрыкметна мінулы год стаў ужо набыткам гісторыі, а ў лексікон беларусаў увайшлі новыя словы: "эканомія па ўсіх накірунках", " мадэрнізацыя і далейшае тэхнічнае пераўзбраенне вытворчасцей". Кіраўнік урада нават запатрабаваў напрыканцы снежня, каб на кожным, нават малым прадпрыемстве меўся такі адпаведны план. Як нам сталі тлумачыць, сёлета на першы план таксама выходзіць жорсткая дысцыпліна, а вось мадэрнізацыя закране не толькі айчынную прамысловасць, але таксама і аграпрамысловы комплекс, сферу будаўніцтва і нават сацыяльную сферу.

Беларусь пачне нарэшце эканоміць, каб рабочыя і служачыя, вяскоўцы ды і ўвогуле ўсе мы сталі яшчэ больш багатымі. Вось і на новы 2013 год урад разам з Нацбанкам зацвердзілі сумесны план дзеянняў па выкананні параметраў Прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця, сярод якіх самы галоўны пункт – рост ВУП на 8,5 %. Для тых, хто не ведае, прыкладна так цяпер штогод прырастаюць аб'ёмамі росту сваёй эканомікі нашы сябры кітайцы. Аднак у нас летась не атрымалася выйсці і на 5-5,5 %, як і прагназавалі незалежныя эканамісты.

Ды і ўвогуле неяк нават дзіўна ад таго, што слоў прыгожых столькі гучыць шмат, а ў выніку, як правіла, аказваемся, як у той пушкінскай казцы, ля разбітага карыта. Вось і віцебскі генерал-губернатар не паспеў далажыць кіраўніку дзяржавы, што Віцебшчына па важнейшых паказчыках лідзіруе ў рэспубліцы і ў снежні давядзе сярэднія заробкі нават да 580 долараў, як статыстыкі яго папраўілі. Вобласці не хапала напрыканцы года не многа, не мала, а 500 мільярдаў рублёў, каб мець такую зарплату ў USD. Ды і сярод іншых абласцей краіны Віцебская, да прыкладу, у лістападзе 2012 года па зарплаце займала 6-е перадапошняе месца, уступаючы лідару, гораду Мінску амаль 2 млн. рублёў.

Калі задумацца, колькі ўжо часу нам штосьці абяцалі. Яшчэ ў маленстве, памятаю, пры Хрушчове былі прыгожыя каляровыя кніжкі пра пабудову светлага будучага камунізму. Потым савецкіх людзей абяцалі добра накарміць і выканаць Харчовую праграму, а далей даць кожнай сям'і асобную кватэру. Але той Саюз непарушных рэспублік рухнуў больш двух дзесяцігоддзяў назад, а летась мы перажылі неверагодную дэвальвацыю і дзікі рост цэн, пасля чаго наступіла, праўда, пэўная стабілізацыя эканамічнага становішча ў нашай суверэннай краіне.

Дзякуй Богу, мінулы год мы пражылі без падобных бед, так сабе ціха і без узрушэнняў. Аднак цяпер пэўны крызіс стала перажываць будаўнічая галіна, не дае росту сельская гаспадарка і толькі ў нас на Віцебшчыне 80 буйных суб'ектаў гаспадарання стратныя. Аднак у бягучым годзе, напрыклад, у Прыдзвінні трэба зрабіць сучаснымі цэлых 1156 прадпрыемстваў. Адна загвоздка, што на гэта патрабуецца цэлых 5,8 трыльёнаў рублёў. Столькі сродкаў абласны бюджэт не знойдзе. Інвестыцыі да нас ідуць цяжка, і таму адна надзея на ўнутраныя рэзервы і яшчэ на цуд, бо як можна за год у 2 разы павялічыць прадукцыйнасць працы (вось ад чаго размовы пра працу, як у ваенны час, днём і ноччу).

Таксама беларусам паабяцалі да 2015 года рэанімІраваць амаль што мёртвы "Камволь" і ніякай далейшай дэвальвацыі нацыянальнай валюты.

Вось з апошнім тэзісам трэба быць асцярожнымі. Разумныя, дасведчаныя людзі сцвярджаюць, што каб беларускі рубль утрымаў свае пазіцыі, Беларусі трэба адмовіцца ад высокіх тэмпаў росту ВУП (адкуль іх браць?) і ад неабгрунтаванага павышэння зарплаты. Усе нашы беды ад таго, што будучае беларускай прамысловасці ствараецца не ад прадуманых і выверaных эканамічных разлікаў, а на аснове адных амбіцыйных планаў, стаўшых моднымі публічных кадравых чыстак і пастаянных абяцанняў светлага будучага ў канцы чарговай пяцігодкі. Аднак прамовы і заклікі на хлеб не намажаш, жыць то трэба цяпер. Гэты год пачаўся са звыклага росту цэн і пры тым прадпрымальнікі на рынках залажылі цэны на свае тавары, зыходзячы з курсу 9500 рублёў/долар. Вось гэтым дзелавым людзям зразумела, што і 2013 наступіўшы год будзе зноў няпростым для ўсіх нас.

## Дзень за днём

**Навядзення жалезнага парадку і мадэрнізацыі ўсіх айчынных прадпрыемстваў патрабуе кіраўнік Беларусі, адначасова будуць скарочаны дзяржпраграмы па культуры, спорце. Яшчэ больш 13 тысяч мінчан знялі з чаргі на атрыманне жылля. Мясцовым уладам сёлета могуць заканадаўча дазволіць абмяжоўваць продаж алкагольных напіткаў. Для беларускіх вучняў 10-11-х класаў могуць вярнуць заняткі па суботах. У Мінску пачалі праводзіць экскурсіі на двухпавярховым аўтобусе. Мінулы месяц снежань аказаўся самым снежным за апошні час, столькі ападкаў у Беларусі выпадае прыкладна раз у 15-20 гадоў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама афіцыйна прызнаў кааліцыю апазіцыі Сірыі ў якасці законнага прадстаўніка сірыйскага народа і паабяцаў дапамагчы ў дасягненні нармалізацыі сітуацыі.

**КНДР.** Да гадавіны праўлення Кім Чэн Ына адна з бяднейшых краін свету запусціла балістычную ракету, здольную данесці ядзерную зброю нават да тэрыторыі ЗША.

**Грэцыя.** Міністры фінансаў краін еўразоны згадзіліся выдзеліць ураду краіны чарговы транш дапамогі ў памеры 34,5 мільярда еўра пры ўмове выкупа ім часткі дзяржаблігацый.

**Кітай.** Больш за тысячу вядучых вучоных краіны запатрабавалі ў адкрытым лісце ад кіраўніцтва КПК справаздач аб даходах іх сем'яў і савякоў, бо паўсюдна квітнее хабар.

**Украіна.** Правячая Партыя рэгіёнаў з камуністамі ў новай Вярхоўнай радзе сутыкнуліся з цяжкасцямі, прынясці іх рашэнняў могуць блакіраваць дэпутаты апазіцыйных партый.

**Польшча.** Спікер польскага Сейма Эва Копач пацвердзіла, што краіна і надалей будзе падтрымліваць незалежныя СМІ для фарміравання дэмакратычнага грамадства ў Беларусі.

**Расія.** Да 2015 года прэзідэнт РФ Уладзімір Пуцін прапанаваў адмяніць магчымасць уезду на расійскую тэрыторыю па ўнутраных пашпартах грамадзян дзяржаў СНД.

**Венесуэла.** Па краіне пачасціліся размовы, што прэзідэнту Уга Чавесу з-за невылечнай хваробы застаецца жыць некалькі месяцаў, паўсюдна сталі маліцца за ягонае жыццё.

**Кітай.** У правінцыі Хэнань 36-гадовы кітайскі селянін напаў раніцай спачатку на пажылую жанчыну, а потым параніў нажом 22-х вучняў мясцовай пачатковай школы.

**Афганістан.** Падчас нарыхтоўкі дроў групай дзяцей адзін з іх выпадкова ўдарыў тапаром па міне, ад выбуху загінулі 10 дзяўчынак, штомесяц ад мін і снарадаў гінуць 40 афганцаў.

**ЗША.** У пачатковай школе г. Ньютаўн штата Канектыкут 20-гадовы мярзотнік забіў брата, потым расстраляў маці-настаўніцу, яшчэ 26 чалавек, з якіх 20 вучняў, і сам застрэліўся.

**Італія.** Былы прэм'ер 76-гадовы С. Берлусконі заявіў, што можа зноў узначаліць урад і аб сваёй новай каханцы, 27-гадовай прыгажуні Франчэска Паскале, з якой даўно сябруе.

**Польшча.** Прэзідэнт Б. Камароўскі запаліў свечкі за беларускіх палітвязняў, а пасол у РБ Л. Шарыпка паведаміў аб адыходзе ў будучым ад электроннай рэгістрацыі на візы.

**Украіна.** Звольнены з АНТ, лепшы вядучы года ва Украіне Сяргей Дарафееў заявіў, што ў РБ улада не разумее, што наспелі змены і што большасць беларусаў ёй ужо не давяраюць.

**Іспанія.** Лепшы футбаліст свету аргенцінец Леанель Месі ўстанавіў неверагодны рэкорд: за адзін год забіў за клуб "Барселона" і ў матчах за родную зборную 90 прыгожых галоў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка прызнаўся, што перакрэсліў усе спісы прыватызуемых аб'ектаў і што хоча пабудаваць у РБ сацыялізм, але не той, што быў у СССР, а падобны на той, які ў Францыі.

**Астравец.** У першай палове года пачнуцца работы па распрацоўцы катлавана энергаблока № 2 Беларускай АЭС, летась здалі ў эксплуатацыю першыя 14 аб'ектаў вытворчай базы.

**Іўе.** Следства выявіла вінаватага за "плюшавы дэсант" – дзяжурнага пагранпаста "Суботнікі", які не паведаміў пра выяўлены ранкам швецкі самалёт далей у пагранічны атрад.

**Шклоў.** На мадэрнізацыю існуючага камбікормавага завода ў роднай вёсцы А. Лукашэнкі – аграгарадку Александрыі Банк развіцця Рэспублікі Беларусь уклад-зе 20 мільёнаў долараў пад 7,5 % гадавых.

**Маладзечна.** Кіраўніцтва Мінскай вобласці выставіла на продаж адно з буйнейшых прадпрыемстваў раёна – будаўнічы холдынг "Забудова", якое мае 4 заводы і свой кар'ер.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер А. Тозік заявіў, што 400 тысяч беларусаў нідзе не працуюць, альбо не плоцяць падаткаў, і прапанаваў увесці абавязковую дэкларацыю даходаў усіх грамадзян.

**Гомель.** Вобласць правяліла рэспубліканскую праграму па запуску ў эксплуатацыю ў 2012 годзе 15 новых свінакомплексаў, з іх ніводзін не запрацаваў з-за адсутнасці фінансаў.

**Столін.** Днём п'яны 19-гадовы хлопец, які выйшаў нядаўна з турмы па амністыі, збіў на "Жыгулях" двух пасажыраў, летась ён забіў на дарозе веласіпедыста і ўцёк з месца ДТЗ.

**Мінск.** Адразу 4 супрацоўнікі Ленінскага РУУС сталі падазраванымі па справе аб збіцці нагамі і дубінкай па галаве вартаўніка-пенсіянера аўтастаянкі, сярод іх і жанчына-опер.

**Кіраўск.** Пад цяжарам снегу абваліўся дах гаспадарчай павеці дома 30-гадовай жыхаркі райцэнтра і забіў маці двух непаўнагадовых дзяцей, цела знайшоў бацька,, але было позна.

**Мазыр.** З-за снегападаў і падзення дрэў на ЛЭП цэлы дзень горад быў без света, вады, тэлефоннай сувязі, стыхія адмяніла заняткі ў школах 4-х раёнаў Гомельскай вобласці.

**Бабруйск.** Крадзяжом года стала абрабаванне царквы Маці Божай, адкуль злачынцы вынеслі каштоўнасцей на 300 млн. рублёў, праз суткі яны абчысцілі храм у Калінкавічах.

**Мінск.** Са спазненнем на паўгода на праспекце Пераможцаў адкрыўся буйнейшы ў Беларусі гандлёвы цэнтр "Замак", які пабудавала кампанія алігарха Паўла Тапузідзіса.

**Гомель.** Суд пакараў 35-гадовую гараджанку 2-мя гадамі турмы за падман у буйным памеры на 4 тысячы USD запрошанага ў госці 50-гадовага грамадзяніна Аўстраліі.

**Барысаў.** ФК БАТЭ папрасіў федэрацыю футбола Беларусі паэтапна павялічыць колькасць каманд у вышэйшай лізе да 16 клубаў, бо мала ў моладзі гульнявой практыкі.

## Падпіска на асноўныя беларускія газеты на першае паўгоддзе 2013 года абышлася ў 1,1-1,3 раза даражэй, чым на другое паўгоддзе 2012 года




Падпіска на асноўныя беларускія газеты на першае паўгоддзе 2013 года абышлася ў 1,1—1,3 разу даражэй, чым на другое паўгоддзе 2012 года, сведчыць праведзенае БелаПАН параўнанне цэн у падпісных каталогах.

Паўгадавыя камплекты «Советской Белоруссии», «Звязды», «Рэспублікі», «Народной газеты» і «Белорусской нивы» падаражэлі на 33,1% (са 148.800 да 198.000 рублёў), «Знамени юности» — на 29,6% (з 81.000 да 105.000), «7 дней» — на 26,8% (з 78.300 да 99.300), «Комсомольской правды» в Белоруссии» — на 24,5% (са 377.400 да 469.800).

«Белорусская военная газета» павялічыла кошт падпіскі на 31% (з 83.100 да 108.900 рублёў), «На страже» — на 22,7% (з 80.700 да 99.000).

Кошт падпіскі на «БелГазету» ўзрос на 9,5% (са 105.600 да 115.600 рублёў), «Белорусы и рынок» — на 28,6% (з 70.200 да 90.300), «Нашу ніву» — на 3,3% (з 91.500 да 94.500), «Народную волю» — на 31,6% (са 114.000 да 150.000).

Цана паўгадавой падпіскі на газету «Прессбол» павысілася на 29% (з 310.000 да 400.000), «Спортивная панорама» — на 32,3% (са 150.950 да 199.500).

Разам з тым «Аргументы и факты» в Белоруссии» зменшылі кошт шасцімесячнай падпіскі на 27,3% (са 136.800 да 99.500).

Узрос кошт падпіскі на абласныя газеты. У прыватнасці, «Витебский рабочий» падаражэў на 24,3% (са 111.000 да 138.000 рублёў), «Могилевская правда» — на 35,4% (з 78.000 да 105.600), «Гомельская праўда» — на 15,5% (са 132.000 да 152.400), «Заря» (Брэст) — на 28,9% (са 114.000 да 147.000), «Брестский курьер» — на 17% (з 98.700 да 115.500), «Гродзенская праўда» — на 28,6% (з 84.000 да 108.000), «Мінская праўда» — на 38,5% (з 78.000 да 108.000).

Па-рознаму змяніўся кошт падпіскі на выданні Расіі, Украіны і Казахстана. Кошт камплектаў на першае паўгоддзе 2013 года склаў: «Российская газета» — 738.300 рублёў (у другім паўгоддзі 2012 года — 798.000; зніжэнне на 7,5%), «Красная звезда» — 1.444.200 (1.443.300; +0,1%), «Медицинская газета» — 1.498.500 (1.459.500; +2,7%), «Учительская газета» — 583.900 (912.500; -36%), «Известия» — 595.500 (469.800; +26,8%), «Мир новостей» — 546.200 (604.300; -9,6%), «Мир криминала» — 148.200 (189.600; -21,8%), «Ведомости» — 1.749.300 (762.000; +129,6%), «Правда» — 217.800 (216.600; +0,6%); «Правда Украины» — 291.550 (346.550; -15,9%), «Голос Украины» — 929.700 (1.119.300; -16,9%), «Команда» — 1.701.000 (1.903.500; -10,6%); «Казахстанская правда» — 695.550 (624.250; +11,4%).

За апошні год кошт падпіскі на «Советскую Белоруссию», «Звязду», «Рэспубліку», «Народную газету» і «Белорусскую ниву» ўзрос на 78,4%, «Знамя юности» — на 63,6%, «7 дней» — на 82,1%, «Белорусскую военную газету» — на 60,8%, «На страже» — на 55,8%, «Народную волю» — на 47,1%, «Белорусы и рынок» — на 51,7%, «Прессбол» — на 53,8%, «Спортивную панораму» — на 67,6%, «Нашу ніву» — на 4,7%.

Вельмі дарагой застаецца падпіска на выданні далёкага замежжа. Да прыкладу, гадавая падпіска на нямецкі штотыднёвы часопіс Stern каштавала 9.692.706 рублёў, або 186.398 рублёў за нумар. Разам з тым розничная цана часопіса ў самой Германіі ніжэйшая амаль у пяць разоў (3,5 еўра, або 39.550 рублёў у пераразліку па курсе на канец 2012 года). Самым дарагім у каталогу быў брытанскі штотыднёвы часопіс Nature — 109.778.973 рублі.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Падчас рабочай паездкі А. Лукашэнка загадаў працаваць, як у ваенны час днём і ноччу і завяршыць летам мадэрнізацыю "Віцебскдрэва", бо ў Беларусі шмат сыравіны.

**Наваполацк.** Горад стаў адзіным у вобласці, дзе летась упершыню за апошніх 16 гадоў нараджальнасць перавысіла смяротнасць насельніцтва, якая найбольшая ў краіне.

**Віцебск.** На сумесным пасяджэнні аблвыканкама і прэзідыума абласвета дэпутатаў глава вобласці А. Косінец прапанаваў на трэць скараціць колькасць кантралюючых органаў.

**Орша.** Паблізу вёскі Засценкі днём на трасе Санкт-Пецярбург-Адэса сутыкнуліся дзве іншамаркі, у выніку ДТЗ загінуў кіроўца з Гомельшчыны, яшчэ 5 чалавек былі паранены.

**Глыбокае.** Лясгасам вобласці даручылі сабраць 75 тон сасновых і яловых шышак, усе яны будуць накіраваны на перапрацоўку ў лесанасенневодчы цэх вобласці для лясгаса.

**Віцебск.** Па патрабаванні падатковай інспекцыі банкі заблакіравалі на пару дзён рахунак і аперацыі па ім абутковага прадпрыемства "Белвест" перад выдачай зарплаты людзям.

**Талачын.** Толькі пад раніцу міліцыя з дапамогай сабакі адшукала 54-гадовага мінчаніна, які спяшаўся на пахаванне маці і зрэзаў дарогу праз лес да родных мясцін, але заблудзіўся.

**Віцебск.** У вобласці вырашана ў бліжэйшы час у сельскіх раёнах пакінуць толькі па 5-7 СШ, з 2007 года ўжо закрылі 133 малакамплектныя школы, а 97 было рэарганізавана.

**Дуброўна.** Па невядомай прычыне загарэўся двухкватэрны жылы дом у вёсцы Цілівічы, у адной з кватэр загінуў пенсіянер, сям'ю яго пажылых суседзяў удалося выратаваць.

**Віцебск.** Ужо болей 200 юнакоў і дзяўчат з розных куткоў вобласці сталі студэнтамі Смаленскага дзяржуніверсітэта, з іх толькі 4 вучацца платна, а стыпендыі пад 200 долараў.

**Чашнікі.** Двое братоў з вёскі Альшанка ва ўзросце 21 і 24 гады загінулі на дарозе ў райцэнтры, калі іх аўтамабіль Мазда-626 зляцеў з маста і рухнуў у раку Лукомка.

**Полацк.** На адной з вуліц горада міліцыя затрымала за рулём 44-гадовага беспрацоўнага з 70 грамамі наркотыкаў, за год у вобласці было выведзена іх з абароту 115 кг дурманзелля.

**Глыбокае.** Пазбаўлены правоў 29-гадовы жыхар вёскі Скражына на дарозе ў Полацкім раёне выляцеў на Опелі на сустрэчную паласу, у ДТЗ загінулі два жыхары Наваполацка.

**Браслаў.** Кіраўніцтва раёна гатова па просьбах людзей прадаставіць памяшканне для аднаўлення працы карпункта консульства Латвіі, калі на гэта згодзіцца латвійскае МЗС.

**Полацк.** Міністэрства культуры Беларусі выдзеліла сродкі на работы па мадэрнізацыі аргана Сафійскага сабора і замену састарэлых дэталей на новыя, выраблены ў Германіі.

*Служба інфармацыі "ВГ"*

# У Эстоніі мінімальную зарплату настаўнікаў павялічваюць да 715 еўра

**Урад на паседжанні ў мінулы чацвер зацвердзіў пастанову пра заработную плату настаўнікаў і даплаце класным кіраўнікам агульнаадукацыйных школ, якая прадугледжвае падвышэнне ніжняй мяжы ставак.**

Прэс-сакратар урада паведаміў, што ніжняя стаўкі зарплаты малодшага педагога і педагога павялічацца з 608 і 644 да 715 еўра, паведамляе BNS.

Ніжнія стаўкі зарплаты старэйшага педагога і педагога-метадыста застануцца ранейшымі – адпаведна 736 і 889 еўра, аднак, больш за 11-адсоткавы рост дапаможніка мясцовых самакіраванняў дазволіць павялічыць зарплату і ім.

Даплата за класнае кіраўніцтва вырасце ў малодшых педагогаў і педагогаў да 72 еўра ў месяц, у старэйшых педагогаў і педагогаў-метадыстаў застанецца на ўзроўні адпаведна 74 і 89 еўра.

Падвышэнне ніжніх ставак аплаты працы закране 80 адсоткаў настаўнікаў.

Пастанова набудзе моц заднім чыслом з 1 студзеня.

Крыніца: *delfi.ee*

# Пачаўся прыём твораў на конкурс маладых пісьменнікаў «Экслібрыс»

**Абвешчаны прыём твораў на конкурс маладых пісьменнікаў «Экслібрыс» імя Янкі Маўра, паведаміла прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

«У 2013 годзе споўніцца 130 гадоў з дня нараджэння вядомага дзіцячага пісьменніка Янкі Маўра. А таму сёлета тэмай конкурсу абраная дзіцячая літаратура», – гаворыцца ў паведамленні.

Да разгляду конкурснага журы прымаюцца творы для дзяцей у наступных жанрах: проза (апаведанні, казкі і г.д.), паэзія (вершы, байкі і г.д.), п`есы, тэксты песень, коміксы, пераклады замежных дзіцячых твораў на беларускую мову.

Прэс-служба СБП падкрэслівае: «Асаблівая ўвага будзе нададзеная творам для падлеткаў, творам, у якіх апісаны цікавы сучасны вобраз героя/гераіні, творам з надзвычай арыгінальным сюжэтам; творам у незвычайных для беларускай літаратуры жанрах: комікс, графічны раман і г.д., творам, якія пераасэнсоўваюць сюжэты і герояў класічных дзіцячых твораў».

Узяць удзел у конкурсе могуць пісьменнікі, літаратурныя крытыкі і перакладчыкі не старэйшыя за 40 гадоў. Журы конкурсу склалі вядомыя літаратары: Алена Масла, Людміла Рублеўская, Алесь Пашкевіч, Пятро Васючэнка, Серж Мінскевіч.

Тэксты на конкурс можна дасылаць да 1 жніўня 2013 на адрас: sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Конкурс». У лісце мусіць быць інфармацыя пра імя, прозвішча, дату нараджэння ўдзельніка, іх кантактныя нумары тэлефонаў і e-mail.

Паводле вынікаў літаратурнага конкурсу пройдзе вечарына ўзнагароджання, творы пераможцаў будуць надрукаваныя ў часопісе «Дзеяслоў» і газеце «Літаратурная Беларусь», а іх саміх запросяць на літаратурны пленэр. Найлепшыя творы, дасланыя на конкурс, могуць выйсці асобнай кнігай.

Конкурс ладзіць Саюз беларускіх пісьменнікаў сумесна з Беларускім ПЭН-цэнтрам.

*Ася Паплаўская, БелаПАН.*

# Навагодні падарунак з душком

**Ул. Скрабатун**

На Новы год нас часцяком чакаюць розныя неспадзеўкі і не толькі пад навагодняй ялінкай. Неспадзеўкай можа стацца затоплены каналізацыйнымі сцёкамі падвал. Зразумела, нельга часам загадзя прадказаць неўтаймавальную прыродную стыхію, як і нельга прадказаць: дзе і калі, у якім падвале, прарве вадаправодную ці каналізацыйную трубу. Ды й, зрэшты, нашы людзі да ўсяго гэтага ставяцца з разуменнем – дзень, два пачакаем, пацерпім, прыедзе аварыйная служба, устараніць аварыю, адпампуе з падвала смярдзючыя сцёкі...

Аднак і тут бывае здараецца неспадзеўка: праходзіць тыдзень, а то й больш, і ніхто не рэагуе (альбо не паспявае рэагаваць) на просьбы шматлікіх жыхароў 5-павярховага дома – ліквідаваць наступствы аварыі.

Так здарылася і ў адносінах да жыхароў дома па вул. Леніна, 138, якія жывуць у яго цэнтральным пад'ездзе. Затапіла падвал каналізацыйнымі сцёкамі ды яшчэ напярэдадні Новага года. З 26 снежня 2012 па 5 студзеня 2013 года смурод устойліва завалодаў кватэрамі цэлага пад'езда. Сітуацыю можна нават і не апісваць, а проста ўявіць, які «арамат» быў у кватэрах пад час навагодняга застолля.




**Падвал жылога дома па Леніна, 138, які затоплены каналізацыйнымі сцёкамі.**

Спадар Л. Аляхновіч, жыхар згаданага дома, паведаміў «ВГ», што на ўсе яго звароты да камунальнікаў і іх запэўніванні, што наступствы аварыі будуць хутка ўстараны, узяліся ліквідаваць наступствы толькі 4 студзеня 2013 года, калі смярдзючыя нечыстоты былі адпампаваны з калодзежаў, а 5 студзеня – з падвала пад'езда.

Як паведаміў далей сп. Л. Аляхновіч, такія неспадзяванкі з зайздроснай пастаяннасцю здараюцца вельмі часта і чамусьці перад святамі і на яго памяці за час пражывання ў гэтым доме такое здаралася сама меней разоў 10. Тут, мабыць, існуе нейкі «віртуальны» графік? То ў гэтым выпадку тады ўжо можна прадказываць верагодную аварыю на 8 сакавіка гг.

Хацелася б пажадаць нашым камунальнікам усе-такі больш хуткага рэагавання на просьбы жыхароў нашага горада па своечасовому ўстараненню наступстваў аварый, каб на святы чуўся толькі арамат страваў, а не дурныя пахі з падвалаў.

# Міністэрства па падатках і зборах разаслала больш як 200 паведамленняў аб намеры ўключыць у рэестр арганізацый і ІП з павышанай рызыкай учынення правапарушэнняў

**Міністэрства па падатках і зборах Беларусі разаслала 232 суб'ектам гаспадарання паведамленні аб намеры ўключыць іх у рэестр камерцыйных арганізацый і індывідуальных прадпрымальнікаў з павышанай рызыкай учынення правапарушэнняў у эканамічнай сферы. Пра гэта паведамілі БелаПАН у прэс-службе МПЗ.**

Звесткі пра суб'екты прадпрымальніцкай дзейнасці пачнуць уключаць у рэестр не раней за 24 студзеня 2013 года, зазначылі ў МПЗ.

Нагадаем, гэты рэестр ілжэпрадпрымальніцкіх структур ствараецца ў адпаведнасці з указам кіраўніка дзяржавы ад 23 кастрычніка 2012 года № 488 «Аб некаторых мерах па папярэджанні незаконнай мінімізацыі сум падатковых абавязацельстваў». Дакумент увайшоў у сілу 1 студзеня 2013 года.




Як паведамілі ў МПЗ, суб'екты прадпрымальніцкай дзейнасці ўключаюцца ў рэестр на падставе інфармацыі і дакументаў, пададзеных падатковымі інспекцыямі, Камітэтам дзяржкантролю, Мінфінам і іх тэрытарыяльнымі органамі, праваахоўнымі органамі і судамі. У гэтых дакументах пацвярджаецца наяўнасць адной ці некалькіх падстаў, прадугледжаных указам № 488, паводле якіх суб'ектаў адносяць да ілжэпрадпрымальніцкаў.

Згодна з указам, калі ў МПЗ паступае інфармацыя аб наяўнасці ў суб'екта адной ці некалькіх такіх падстаў, то на працягу трох працоўных дзён з дня яе паступлення гэтаму суб'екту адпраўляецца замоўленым лістом паведамленне аб намеры ўключыць яго ў рэестр. Рашэнне аб уключэнні ці неўключэнні суб'екта прадпрымальніцкай дзейнасці ў рэестр прымаецца МПЗ на працягу 15 рабочых дзён з дня накіравання паведамлення аб намеры ўключэння яго ў рэестр, а пры наяўнасці пярэчання з боку суб'екта — цягам 20 працоўных дзён з даты яго паступлення. У выніку суб'ект прадпрымальніцкай дзейнасці ўключаецца ў рэестр не пазней за адзін працоўны дзень, які ідзе за днём прыняцця рашэння аб уключэнні яго ў рэестр.

Такім чынам, растлумачылі ў прэс-службе МПЗ, звесткі пра суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці пачнуць уключаць у рэестр не пазней за 24 студзеня 2013 года. Гэты рэестр будзе апублікаваны ў адкрытым доступе на сайце міністэрства.

«Гэты рэестр створыць праблемы не толькі для лжэпрадпрымальніцкіх структур, але і для цалкам нармальных прадпрымальнікаў» — такую думку ў каментары БелаПАН выказаў кіраўнік Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва Сяргей Балыкін.

Так, паводле яго слоў, зараз пры ажыццяўленні здзелак з контрагентам неабходна праваряць, уваходзіць ён у рэестр ці не. «Усім суб'ектам гаспадарання неабходна будзе мець доступ у інтэрнэт, нават, напрыклад, фермерам у далёкай вёсцы. Усё гэта вядзе да дадатковых і даволі істотных затрат», — зазначыў кіраўнік асацыяцыі.

«Тых, хто трапіў у гэты рэестр, і тых, хто ажыццяўляе здзелкі з імі, чакае пэўнае фінансавае наступства. Дапусцім, расходы па здзелках з такімі суб'ектамі гаспадарання выводзяцца з выдаткаў і абкладаюцца падаткамі. Калі я праводжу здзелкі з аб'ектамі з рэестра і адношу свае расходы на выдаткі, то пры праверцы ў мяне могуць знайсці гэтак званае парушэнне і мне трэба будзе не толькі заплаціць падаткі, але і штрафныя санкцыі», — растлумачыў юрыст.

Апрача таго, уключэнне ў рэестр адбываецца не праз судовае рашэнне, а адміністрацыйным метадам паводле рашэння падатковых органаў. Балыкін мяркуе, што «крытэрыі ўключэння ў гэты рэестр дастаткова размытыя і дазваляюць уключыць каго хочаш». «Па сутнасці, мы маем справу з пакараннем без судовага рашэння», — зазначыў ён.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Аграметэаралагічныя ўмовы гэтай зімой спрыяльныя для азімых культур, паведаміў сіноптык

**Аграметэаралагічныя ўмовы гэтай зімой спрыяльныя для азімых культур, паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра Дзмітрый Рабаў 4 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, азімыя на момант пачатку зімоўкі назапасілі дастаткова вялікую колькасць цукру і спажыўных рэчываў. Паводле апошніх звестак, яны знаходзяцца ў здавальняючым стане, і чаканыя нізкія тэмпературы азімым не будуць пагражаць. «Аграметэаралагічныя ўмовы для азімых культур будуць складвацца ў найбліжэйшы час здавальняюча», — зазначыў сіноптык.

Пачатак сельскагаспадарчых работ вясной будзе залежаць ад сінаптычнай сітуацыі. Так, у апошнія гады вясновыя працэсы пачынаюцца ў Беларусі на адну-пайтары дэкады раней: з лютага. «У залежнасці ад таго, як будзе складвацца сінаптычная сітуацыя, пасяўныя работы могуць пачацца ўжо ў сярэдзіне сакавіка — другой палове сакавіка», — сказаў Рабаў.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# У Беларусі плануецца закладваць падрабязную інфармацыю аб прадуктах харчавання ў штрыхкоды

**У Беларусі плануецца стварыць сістэму, якая дасць магчымасць закладваць падрабязную інфармацыю аб прадуктах харчавання жывёльнага паходжання ў штрыхкоды, паведаміў карэспандэнту БЕЛТА намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па аграрнай палітыцы Уладзіслаў Цыдзік, каменціруючы законапраект «Аб ідэнтыфікацыі, рэгістрацыі, прасочвальнасці сельскагаспадарчых жывёл і прадуктаў жывёльнага паходжання».**

Дэпутат адзначыў, што гэты дакумент уключаны ў план падрыхтоўкі законапраектаў на 2013 год, які быў зацверджаны ўказам нумар 1, і падкрэсліў значнасць усіх законапраектаў, пералічаных у плане. Парламентарый адзначыў, што вышэйназваны законапраект адпавядае інтарэсам як усёй дзяржавы, так і асобнага чалавека.

Размова ідзе аб стварэнні інфармацыйнай сістэмы, па якой можна адсачыць гісторыю жыцця і ўтрымання жывёлы ад нараджэння да забою. Спажывец зможа атрымаць даволі падрабязную інфармацыю аб тым, з якой сыравіны зроблены той ці іншы прадукт харчавання, чым кармілі, напрыклад, карову, мяса якой выкарыстана пры вытворчасці прадуктаў харчавання, якая вакцынацыя і ў якія тэрміны ёй была зроблена. Гэтыя даныя будуць зашыфраваны ў штрыхкодзе. Такія законы ўжо дзейнічаюць у многіх іншых краінах. У тым ліку просьбы аб стварэнні такой базы даных беларускаму боку паступілі ад партнёра па Мытнаму саюзу Расіі.

Уладзіслаў Цыдзік звярнуў увагу на тое, што такі падыход да вытворчасці прадуктаў харчавання павінен станоўча адбіцца на здароўі насельніцтва, у тым ліку рэпрадуктыўным, а значыць, і на дэмаграфічных працэсах. «Гэтыя працэсы трэба рэгуляваць не толькі за кошт вырашэння жыллёвых праблем, хоць нельга прыніжаць іх значнасць. Ёсць і іншыя бакі, якія звязаны з правільным харчаваннем. На першы погляд гэта здаецца неістотным, а на справе - вельмі важна для здароўя нацыі. А гэта адзін з важных складальнікаў дэмаграфічнай палітыкі дзяржавы», - лічыць парламентарый.

Што датычыцца эканамічнага боку, то такая інфармацыя аб сыравіне, якую выкарыстоўвае тое ці іншае перапрацоўчае прадпрыемства, будзе неапсрэдна ўплываць на рэпутацыю вытворцы сярод пакупнікоў. Відавочна, што гэта будзе стымуляваць паляпшэнне якасці прадукцыі і больш уважлівыя адносіны да выбару пастаўшчыкоў мяса ці малака. Больш таго, камп'ютарная база па жывёлах неабходная і для племянной справы. У прыватнасці, яна можа выяўляць гаспадарчыя выдаткі гадоўлі жывёл.

Палата прадстаўнікоў прыняла ў першым чытанні праект закона «Аб племяной справе ў жывёлагадоўлі», а цяпер у камісіі ідзе падрыхтоўка яго да прыняцця ў другім чытанні. «Нам неабходны навуковы падыход, сістэмнасць у вядзенні племянной жывёлагадоўлі. Гэта вельмі важныя элементы. Прафесіяналы ведаюць, што без племянной справы далейшая інтэнсіфікацыя вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі проста нерэальная», – сказаў Уладзіслаў Цыдзік.

Камісія рыхтуе да прыняцця ў другім чытанні і праект закона «Аб насенняводстве». Паводле слоў дэпутата, трэба аднавіць сістэму насенняводства: стварыць матэрыяльна-тэхнічную базу, прадаставіць вучоным магчымасць ствараць перспектыўныя сарты і гібрыды, у якіх мае патрэбу сельская гаспадарка. «Усё гэта дасць магчымасць зберагчы мільярды рублёў, калі паставіць работу сістэмна», – адзначыў ён.

Пастаянная камісія Палаты прадстаўнікоў па аграрнай палітыцы для больш якаснай работы над гэтымі двума дакументамі плануе правесці выязныя пашыраныя пасяджэнні з удзелам спецыялістаў навукова-практычных цэнтраў Нацыянальнай акадэміі навук па жывёлагадоўлі і земляробству, каб на месцы чарговы раз вывучыць усе асаблівасці і існуючыя праблемы ў гэтых пытаннях. На выязныя пасяджэнні будуць запрошаны вучоныя і практыкі аграрнай сферы, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў.

БЕЛТА.

# У Віцебску з'явіліся білборды ў падтрымку беларускай мовы

**Міністэрства культуры Беларусі выступіла распрацоўшчыкам і заказчыкам рэкламы ў падтрымку беларускай мовы. Такія білборды з'явіліся на вуліцах сталіцы і буйных гарадоў краіны.**

У Віцебску білборд з надпісам "Ма-ма = мова. Любіш маму?", у прыватнасці, усталяваны на Маскоўскім праспекце, побач з СШ №11.

*Тацціяна Мацвеева*




# Выхавальнікам і памочнікам выхавальніка ў Беларусі будуць даплачваць за догляд выхаванцаў

**Выхавальнікам дашкольнай адукацыі, памочнікам выхавальнікаў у Беларусі будуць даплачваць за догляд выхаванцаў. Гэта прадугледжана пастановай Міністэрства адукацыі нумар 132, афіцыйна апублікаванай сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе карэспандэнт БЕЛТА.**

Згодна з пастановай, выхавальнікі дашкольнай адукацыі будуць дадаткова атрымліваць 15 працэнтаў ад тарыфнай стаўкі першага разраду (цяпер яна складае Br240 тыс.), памочнікі выхавальнікаў - 10 працэнтаў.

Дакумент прыняты на падставе пастановы Савета Міністраў нумар 1972 «Аб дадатковых мерах па ўдасканаленню аплаты працы работнікаў галін эканомікі» і прадугледжвае змяненні і дапаўненні ў пералік і памеры даплат работнікам устаноў адукацыі за асобныя віды работ.

Пастанова Мінадукацыі нумар 132 уступае ў сілу з 1 студзеня 2013 года.

*БЕЛТА*



## Літва можа адмовіцца ад летняга часу

**Урад Літвы сабраўся высветліць, як на здароўе людзей і гаспадарчы сектар уплывае перавод стрэлак гадзіннікаў вясной і ўвосень.**

На думку міністра аховы здароўя Віцяніса Повіласа Андрукайціса, уздзеянне змены часу на здароўе чалавека трэба было б даследаваць у розных узроставых групах.

Член камітэта Сейма па пытаннях аховы здароўя Віда Марыя Чыгрэене нагадвае, што парламентарыі мінулага Сейма прапаноўвалі не мяняць час, нягледзячы на тое, што Літва з такім выпадку была б адзінай у ЕС.

«Відавочна, што арганізм чалавека прывыкае да пэўнага рытму; і на яго дзейнічае, калі трэба перайсці да іншага рытму. Такія перамены зусім не патрэбныя», - сказала яна.

Пасля таго, як Беларусь не пераяла ў кастрычніку стрэлкі гадзіннікаў, розніца ў часе паміж Мінскам і Вільняй зноў складае 1 гадзіну. З канца сакавіка час зноў зраўняецца.

***Delfi.lt***

# У Беларусі ўжо амаль 14 тысяч ВІЧ-інфікаваных

Толькі на працягу студзеня-верасня 2012 года выяўлена 940 ВІЧ-інфікаваных, што сведчыць пра тое, што распаўсюд інфекцыі ў Беларусі прагрэсуе.

Паводле дадзеных аддзела прафілактыкі ВІЧ/СНІДу дзяржаўнай установы «Рэспубліканскі цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя», у Беларусі за студзень-верасень бягучага года выяўлена 940 ВІЧ-інфікаваных супраць 889 на аналагічны перыяд мінулага года.

Па кумулятыўных дадзеных (з 1987 гады да 1 кастрычніка 2012-га), у краіне зарэгістравана 13 тыс. 895 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі (паказчык распаўсюджанасці – 115,2 на 100 тыс. насельніцтва). У Гомельскай вобласці зафіксавана 6 тыс. 813 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі (паказчык распаўсюджанасці - 348,9), у Мінскай вобласці - 1 тыс. 927 (115,1), у Мінску - 1 тыс. 991 (91,7), у Магілёўскай вобласці - 804 (62,7), у Брэсцкай вобласці - 1 тыс. 54 (60,6), у Віцебскай вобласці – 736 (49,4), у Гродзенскай вобласці – 570 (42,3), паведамляе БЕЛТА.

Большасць ВІЧ-інфікаваных – гэта маладыя людзі ва ўзросце ад 15 да 29 гадоў. Агульная колькасць выпадкаў ВІЧ-інфекцыі ў гэтай узроставай групе дасягнула 8 тыс. 280 (удзельная вага ў агульнай структуры ВІЧ-інфікаваных – 59,6%). Частка моладзі ва ўзросце 15-19 гадоў сярод ВІЧ-інфікаваных за дзевяць месяцаў бягучага года ўзрасла да 1,9% (за аналагічны леташні перыяд гэты паказчык ураўноўваўся 1,3%).

Па кумулятыўных дадзеных, 45,4% інфікаваных вірусам імунадэфіцыту чалавека заразіліся парэнтэральным шляхам (пры нутравенных уводзінах наркатычных рэчываў). Удзельная вага інфікаваных палавым шляхам складае 52,1%. За студзень-верасень цяперашняга года частка парэнтэральнага шляху перадачы ВІЧ – 21,3%, палавога – 76,8%.

У цэлым па рэспубліцы ўдзельная вага жанчын з агульнага ліку ВІЧ-інфікаваных складае 39,7%. За дзевяць месяцаў мінулага года ўдзельная вага жанчын дасягнуў 46,7%. З 1987 гады да 1 кастрычніка 2012-го ад ВІЧ-інфікаваных маці нарадзілася 2 тыс. 169 дзяцей, у тым ліку за дзевяць месяцаў бягучага года –166. Дыягназ «ВІЧ-інфекцыя» пацверджана 210 дзецям, народжаным ад ВІЧ-інфікаваных маці, з іх 10 памерла. Усяго ў Беларусі сярод дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў зарэгістравана 225 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі.

Кумулятыўнылікывыпадкаў СНІДу на 1 кастрычніка 2012 года – 3 тыс. 459, у тым ліку за дзевяць месяцаў бягучага года дадзены дыягназ усталяваны 434 пацыентам (за аналагічны перыяд 2011 года – 432).

Сярод ВІЧ-інфікаваных пацыентаў памерла 2 тыс. 974 чалавекі (у тым ліку ў стадыі СНІду – 1 тыс. 650). За дзевяць месяцаў 2012 года памерла 283 чалавекі, у тым ліку ў стадыі СНІДу – 193.

***«Ежедневник».***

# У Беларусі некаторыя шлюбы цяпер можна скасаваць без суда

**У Беларусі з 1 студзеня 2013 года ўступіла ў сілу адно са змяненняў у Кодэкс аб шлюбе і сям'і. Цяпер у некаторых выпадках скасаваць шлюбы можна будзе ў загсе, не звяртаючыся ў суд, паведамляе карэспандэнт БЕЛТА.**

Аднак для гэтага неабходна не толькі згода мужа і жонкі. У іх не павінна быць агульных непаўналетніх дзяцей, а таксама маёмаснай спрэчкі.

Астатнія змяненні ў кодэкс ужо ўступілі ў сілу 24 ліпеня 2012 года. Напрыклад, мінімальны тэрмін з дня падачы заявы да рэгістрацыі шлюбу не 15, а ўсяго 3 дні. У новай рэдакцыі зменены і парадак разліку запазычанасці па аліментах. Судовы выканаўца цяпер будзе зыходзіць з сярэдняй заробатнай платы работніка ў цэлым па рэспубліцы, а не з сярэдняй зарплаты ў рэгіёне, дзе пражывае даўжнік.

Акрамя таго, жадаючыя зарэгістраваць свой шлюб змогуць зрабіць гэта ў любым аддзяленні ЗАГС. Прадугледжана і магчымасць правядзення рэгістрацыі за межамі будынка ЗАГСа – напрыклад, на прыродзе або ў любым іншым месцы. Таксама ў дакумент былі ўнесены і многія іншыя змяненні.

*БЕЛТА*



■ Фадзей Шымуковіч,
*настаўнік-пенсіянер, г. Дзісна.*

# Дынастыя Раманавых у лёсе беларусаў

**Заканчэнне.**
*Пачатак у №1 (665) за 2013 г.*



**Фёдар Аляксеевіч Раманаў (1676-1682гг)**

Фёдар атрымаў у спадчыну дзяржаву ў поўнай разрусе. Турэччына па-ранейшаму вяла войны супраць Расіі. Пастаянныя ўнутрыдзяржаўныя канфлікты з баярамі. Пустая дзяржаўная казна, незадавальненне простага абрабаванага люду.

Фёдар вымушаны быў пайсці на новыя падаткі на людзей. Былі ўведзены падаткі з кожнага двара горада і вёскі. Знішчана размеркаванне пасад у залежнасці ад грамадскага становішча і зроблена спроба прызначаць чыноўнікаў ад іх здольнасцяў. Складзены праект аб аддзяленні вышэйшых грамадзянскіх чыноў і пасад ад ваенных. Праект вышэйшага вучылішча або акадэміі. Праект фінансавага перастварэння. Усё гэта рабілася з мэтай аслаблення ролі царквы ў дзяржаўнай справе. Але праекты засталіся праектамі, бо не было грошай.

11 ліпеня 1681 года нарадзіўся царэвіч Ілля. Праз тры дні 14 ліпеня памерла першая жонка Фёдара Агаф'я Сямёнаўна Грушэцкая, якая аказвала вялікі ўплыў на справы царскія. 20 чэрвеня памёр і сын Ілля.

А тут і Рэч Паспалітая гатова была адваяваць страчаныя землі. У 1680 годзе быў заключаны мір на 30 гадоў, па якому да Рэчы Паспалітай адышлі Невель, Себеж, выплачана кантрыбуцыя 200 тысяч масакоўскіх рублёў.

14 лютага 1682 года Фёдар ажаніўся на Марфе Матвееўне Апраксінай, каб мець наследніка прэстола. Але 27 сакавіка 1682 года ва ўзросце 21 года Фёдар нечакана памёр.



**Іван Аляксеевіч і Пётр І Аляксеевіч (1682-1696гг)**

Пасля Фёдара наследнікаў засталося два, яго браты: Іван ад Марыі Міраслаўскай – хворы, паўсляпы, няпоўнага розуму, і Пётр ад Наталлі Нарышкінай – здаровы, жвавы, валявы і даравіты. Спачатку патрыярх абвясціў і благаславіў на царскі прэстол Пятра, а яго апякуном павінна была стаць яго маці. Але яго сястра Соф'я ўзбунтавала, што яе мачыха стане царыцай. Прыйшлі да паразумення, што краінай будуць кіраваць два цары: Іван V і Пётр І. Соф'я будзе апякуном свайго брата Івана V. Ім нават змайстравалі двухмясцовы трон, на якім яны размяшчаліся ў час афіцыйных прыёмаў. З задняга боку трона размяшчалася месца для Соф'і, адкуль яна кіравала дзеяннямі цароў.

Але і такое становішча не задавальняла Соф'ю, і яна пляла інтрыгі сумесна з баярамі Мсціслаўскімі супраць Пятра і яго маці. Соф'я прымала меры па надзённых справах не заўсёды разумныя.Ператварэнні ў дзяржаўным ладзе, якія планаваў Фёдар Аляксеевіч, былі закінуты. Так цягнулася 8 доўгіх гадоў. Пётр з цягам часу набіраўся сілы і ведаў, часта пры рашэнні таго ці другога пытання папраўляў сястру Соф'ю, а то і настойваў на сваім рашэнні. Іван жа паступова адчуваў сябе ўсё горш. Каб захаваць за сабой уладу, маці Пятра ў 1689 годзе жаніла яго на дачцэ акольнічага Лапухінай Аўдакіі (Еўдакіі).

Тым часам Соф'я стала задумваца, як самой стаць царыцай. Яна стала супраць Пятра падбухторваць стральцоў. Пятра занепакоіў новы набор стральцоў, які праводзіла Соф'я і якія прысягнулі на вернасць ёй. Пётр загадаў арыштаваць і казніць стральцоў староннікаў Соф'і. А Соф'ю заключыў у Навадзевічы манастыр, дзе яна ў 1704 годзе памерла. А фаварыта Соф'і Галіцына саслаў у Архангельск.

Іван у 1696 годзе адмовіўся ад прэстола і хутка ціха і незаўважна памёр. Так закончылася двоеўладдзе ў Расіі.

**Пётр І Аляксеевіч Раманаў (1696-1725гг)**



З імем Пятра І звязаныя ўсе рэформы, якія праводзіліся ў Расіі ў І чвэрці XVIII стагоддзя. У 1703 годзе па ўказанні Пятра І пачата пабудова Петрапаўлаўскай крэпасці і пачатак будавання горада, якому далі назву Пецярбург. Пётр І асабіста зацвердзіў архітэктурны план горада. На пабудову горада прымусова было сагнана да 30 тысяч чалавек. Шведы не адзін раз спрабавалі перашкодзіць пабудове горада. Тады Пётр І у 1704 годзе 18 мая закончыў пабудову на востраве Котлін крэпасць Крандштат.

За выхад да Балтыйскага мора вёў з 1709 да 1721 года так званую Паўночную вайну, у час якой у 1709 годзе пад Палтавай нанёс сур'ёзную паразу шведскім войскам пад камандай Карла XII. Пасля паспяховага заканчэння Паўночнай вайны ў 1721 годзе, Расія была абвешчана імперыяй, а Пётр І стаў першым яе імператарам.

Пётр І нездарма лічыцца рэфарматарам Расіі. Закончыўшы пераход ад саслоўна-прадстаўнічай да абсалютнай манархіі, ён распусціў у 1711 годзе Баярскую Думу і ўтварыў Сенат з 9 чалавек, куды ўвайшлі адданыя яму людзі. Сенат стаў вышэйшым дзяржаўным і судовым органам. Ён мог замяніць імператара ў час яго адсутнасці. Былі ўтвораны 12 калегій, якія кіравалі справамі і краінай.

У 1703 годзе Пётр І царкву падпарадкаваў дзяржаве, скасаваўшы патрыяршаства. Даглядальнікам патрыяршага сана быў прызначаны Стэфан Яворскі. У 1721 годзе згодна Духоўнаму рэгламенту, замест патрыяршаства былі утвораны Сінод, які валодаў справамі праваслаўнай царквы. Кіраваў Сінодам оберпракурор, прызначаны царом.

З мэтай развіцця прамысловасці Пётр І пачаў даваць грошы на ўтварэнне прадпрыемстваў, пазбавіўшы іх ад падаткаў і прыпісваў да іх прыгонных сялян у якасці працоўнай сілы. Забараніў пастрыг у манахі маладзейшых за 30 гадоў, тым самым зберагаючы працоўныя рэсурсы.

Усю краіну раздзяліў на 10 губерняў з губернатарам на чале, які назначаўся асабіста самім царом, сачыў за парадкам, за выкананнем законаў цара, вёў набор рэкрутаў, збіраў падаткі, шукаў беглых сялян, чыніў суд і расправу. Яму было дазволена перадаваць сваім дзецям у спадчыну свае асабістыя валоданні.

У 1718-1720 гг старыя прыказы былі заменены калегіямі. Яны адрозніваліся строгім размежаваннем абавязкаў і кіравалі якойсьці галіной дзяржаўнай гаспадаркі на тэрыторыі ўсёй краіны. У кіраўніцтве 12 калегій, а яны замянялі 44 прыказы.

Пачалі адкрывацца свецкія школы. У Маскве адкрылі Навігацыйную школу, у Пецярбургу Марскую акадэмію, артылерыйскую і інжынерную школы ў Маскве. Пры шпіталях адкрылі медыцынскія вучэльні.

У 1712 годзе Пётр І сталіцу перанёс з Масквы ў Пецярбург.

У Пятра І ад першай жонкі ЕўдакііФёдараўныЛапухінай было 3 сыны: Аляксей (пакараны па загадзе Пятра І), Аляксандр, Павел. Ад другой – Марты Скаўронскай (якая пад імем Екацярыны стала Імператрыцай 1725-1727гг) было 2 сыны: Павел і Пётр; і 4 дачкі: Екацярына, Анна Маргарыта і Елізавета (будучая імператрыца 1741-1761гг)

Сын Аляксей пайшоў супроць волі бацькі Пятра І, якога падбухторвалі баяры, незадаволеныя рэформамі, ён хацеў скіраваць Расію на шлях заняпаду, быў асуджаны, прызнаны вінаватым і заслугоўваючым смяротнай кары. Пётр І для развіцця магутнасці Расійскай дзяржавы не пашкадаваў роднага сына.



Мінск. Будынак, які ўзведзены ў 1913 г. да 300-годдзя дынастыі Раманавых.

Імкненне Пятра І прабіцца да Балтыйскага мора прывяло да Паўночнай вайны 1700-1721 года, якая большай часткай вялася на тэрыторыі Беларусі ці тагачаснага ВКЛ. У 1702 годзе войскі Карла XII уварваліся на тэрыторыю Беларусі, рухаючыся на Рэч Паспалітую, прайшлі праз Гродна, якое як і мястэчкі, і вёскі наваколля разрабавалі. Агінскі, які камандаваў войскам Рэчы Паспалітай, стаў адыходзіць у бок Вільні. У сакавіку 1702 года войска Рэчы Паспалітай пад камандаваннем Вішнявецкага было разбіта пад мястэчкам Езна. Праўда, у новай бітве некалькі пазней каля мястэчка Дарсунішкі войска Вішнявецкага нанесла паразу шведам, а галоўнакамандуючы іх трапіў у палон. У адказ на гэта Карл XII загадаў захапіць Вільню, ды гэта было зроблена шведамі так імклівa, што сам Вішнявецкі ледзь не трапіў у палон.

Карл XII аддаў загад свайму войску рухацца на Польшчу, пакінуўшы на тэрыторыі ВКЛ малакольскасныя і маладольныя войскі. Агінскі і Вішнявецкі рашылі скарыстаць момант і атакаваць шведаў. У дзвюх бітвах пад Саванцкім і Радзівілішкамі войскі Агінскага і Вішнявецкага пацярпелі вельмі жорсткую паразу, страціўшы шмат забітымі, вайсковай тэхнікі і абозу. Ды і самі ваеначальнікі ледзьве не трапілі ў палон.

Яшчэ горш справы былі ў Польшчы. Шведы захапілі Кракаў, Варшаву. Карлам XII польскі кароль Аўгуст II быў пазбаўлены пасады, а на яго месца абраны ваявода Станіслаў Ляшчынскі. Усё гэта прымусіла Польшчу звярнуцца да Пятра І за дапамогай.

Пётр І, скарыстаўшы тое, што асноўныя сілы шведаў былі ў Польшчы, змог атрымаць шэраг перамог над ёй у Прыбалтыцы. Былі ўзяты некалькі крэпасцяў. Расія прабілася да Балтыйскага мора. Пётр І прыязна сустрэў польскае пасольства, з якім 19 жніўня 1704 года і заключыў вайсковую дамову. Паводле яе было паслана адно войска на чале з генералам Рэпніным да Полацка, а другое на дапамогу Вішнявецкаму, з мэтай захапіць Вільню. Уступіўшы на тэрыторыю ВКЛ 60-тысячная армія Рэпніна да сярэдзіны 1705 года заняла Мінск і Гародню.

У канун чэрвеня 1705 года сам Пётр І з 60-тысячным войскам накіраваўся на Вільню і па дарозе спыніўся ў Полацку, дзе прабыў месяц. Там ён, нягледзячы на тое, што знаходзіўся ў суседняй дзяржаве, учыніў варварскі пагром у Полацкай Сафіі. Яшчэ раней, будучы ў Віцебску ў 1701 годзе Пётр І загадаў пасекчы і папаліць уніяцкія абразы. У ліпені 1705 года рускія войскі Пётр І прывёў пад Вільню. Асноўныя сілы цар пакінуў у Вільні пад камандаваннем сваіх генералаў, а сам з часткай войска накіраваўся ў Курляндыю на дапамогу генералу Шараметьеву.

У студзені 1706 года Карл XII аблажыў гарнізон Гародні. Аўгусту II прыйшлося адступіць у Саксонію на яго радзіму, а частка рускай конніцы адступіла пад Мінск. Гэта адкрыла шлях шведскаму войску ўглыб ВКЛ. У 1706 годзе яны ўзялі і спалілі Нясвіж, Клецк, Полацк, Навагародак, абклалі Ляхавічы. Шведы прымусілі Аўгуста II адмовіцца ад саюза з Расіяй і заключыць сепаратны мір. Расія засталася ў вайне са шведамі адзін на адзін.

Шведскія войскі з Польшчы перайшлі на тэрыторыю ВКЛ. У канцы студзеня 1708 года занялі Гародню і рушылі на Ліду і Смаргонь, каб разбіць армію Шарамета. Шарамет разгадаў замысел Карла XII і адвёў сваё войска з-пад удара да Улы і Віцебска. Галоўныя сілы шведаў, што знаходзіліся каля Даўгінава і Радашковічаў, 7 чэрвеня 1708 года прыйшлі да Мінска, а праз тыдзень перапраўіліся праз Бярэзіну. 14 ліпеня 1708 года каля мястэчка Галаўчын (зараз Бялыніцкі р-н) адбылася бітва рускіх са шведамі. Рускае войска было разбіта, за што генерал Рэпнін быў разжалаваны ў радавыя салдаты.

У версні 1708 года шведы захапілі Магілёў, аднак доўга яны тут не затрымаліся. Карл XII павёў свае войскі на Украіну. На дапамогу яму з Рыгі выйшаў корпус генерала Левенгаўза. Перайшоўшы праз Дняпро ў раёне Шклова, 20-тысячнае войска ўзяло курс на Прапойск. Насустрач яму з 12-тысячным войскам рушыў Пётр І, дзе яны і сышліся ля вёскі Лясная. Тут 9 кастрычніка 1708 года адбылася паміж імі бітва, у якой шведы былі разгромлены, страціўшы шмат вайсковай сілы, узбраення і ўвесь абоз.

Хоць Паўночная вайна яшчэ цягнулася 13 гадоў, аднак яна пакінула тэрыторыю нашай краіны. І хаця ў гэтай вайне Расія не прэтэндавала на тэрыторыю ВКЛ, разбурэнні ад баявых дзеянняў, грабяжоў і забойстваў прынеслі нашаму народу незлічоныя беды. За часы Паўночнай вайны беларускі народ страціў 800 тысяч чалавек – гэта трэцяя частка той колькасці насельніцтва, што было перад вайной. І колькі трэба здзіўляцца духоўнай сіле нашага народа, які, нягледзячы на шматлікія страты, не загінуў і не толькі змог выжыць, але і захаваць сябе як самабытны народ.

# Прыватныя Абвесткі

## Аўтамабілі на продаж:

Аўдзі-100, 2,0 ТД, 1986 г., цёмна-зялёны, 1950 у.а., торг. Т.: 8-029-258-77-02**

ВАЗ-21013, 1982г.в., добры стан, 1000у.а., торг. Т.: 632-12-69(мтс)

ВАЗ- 21066, у добрым стане, новыя АКБ, гума, 7.000.000 руб, торг. Тэл. 8-029-715-56-03

ВАЗ-2106, 1987г.в. Т.: 8-044-756-23-82(в)*

Опель-Аскона, 1982г.в., 1,3Б, белы, 2-дзвёрны, л\д на 15, ТА, страхоўка, на хаду, 1100у.а., торг. Т.: 612-60-27(мтс)**

Опель-Астра G, 1999г.в., 1,6Б, зялёны ўніверсал, кандыцыянер, АБС, ПБ, ксенан, шторка, зімовая гума, серваруль, 6450у.а. Т.: 278-89-33(мтс)

Опель-Амега, 1988 г/в, бензін, 1300 у.а. Тэл. 8-029-590-28-50

ФВ-Пасат В2, 1985г.в., 1.6Д. Т.: 8-033-306-25-33

ФВ-Пасат В5, седан, чорны, 1997г.в., 1.8Б, поўны эл\пакет, л\д, ксенан, выдатны стан, 8000у.а. Т.: 8-029-298-62-56(мтс)*

Форд-Транзіт, 1993г.в., 2,5Д, 4000у.а. Т.: 811-94-72

Форд-Мандэа, 1997г.в., 1,8Б, універсал. Т.: 514-44-05(мтс)

Форд-Фіеста, 1994г.в., добры стан, патрэбна АКБ, 330у.а. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)*

Форд-Галаксі, 1995 г.в., 2.0 бензін, добры стан. Тэл. 8-029-810-21-66

Рэно-Кліа, 1994г.в., 1,2 мона, чырвоны, выдатны стан, кошт па дамове, магчымы абмен. Т.: 813-66-65(мтс)

Рэно-Кліа, 1992г.в.. сіне-блакітны металік, 5-дзвёрны, добры стан. Т.: 8-029-294-24-61(мтс)

Рэно-Кліа, 1994г.в., 1,2 мона, чырвоны, выдатны стан, кошт па дамове. Т.: 813-66-65(мтс)

Рэно-11, 1986г.в., 1,7Д, срэбны металік, добры стан, 1000у.а. Т.: 8-029-516-37-38(мтс), 8-029-516-67-52(мтс)*

Мэрсэдэс-Бэнц W-140, 1997г.в., 2,8Б, механіка, л\д, Бі-ксенан, скура, ц\сіні металік, выдатны стан. Т.:8-029-718-09-21*

Пежо-406, 1997г.в., 1,8Б, зялёны металік, седан, добрая камплектацыя, 5500у.а., торг. Т.: 519-00-83(мтс)

Сітраен С3, 2004г.в., 1,4Б, прабег 106 тыс. км, сіні, новая зімовая гума, ідэальны стан, 7650у.а. Т.: 8-029-714-00-74*

Сітраен-Ксантыя, 1999г.в., 1,9ТДі, хэтчбэк, срэбны, добры стан. Т.: 8-029-160-86-03

Сітраен С4, 2008 г, 1.6, дызель, серабрысты металік,100000 км прабег, 12300 у.а. Докшыцы. Тэл. 8-029 215-30-51

Мазда-626, 1987г.в., 2,0Б, 1500у.а., торг. Т.: 632-12-69(мтс)

Мазда-626, 1987г, 2.0, дызель, добры працоўны стан, кошт па дамове. Тэл. 8-029 595-30-68

Вольва ХС-70, 2001г.в., чорны, скура, ліццё, 2,4ТБ. Т.: 8-044-756-23-82*

Нісан-Сірэна, мінівэн, 7 месц, 1996 г, дызель, 2.3, 4700 у.а.Шаркоўшчына.Тэл. 8-033 675-57-39, мтс; 8-029 395-79-18, велком

Масквіч-412, ТА, страхоўка, у рабочым стане, патрабуе дробнай зваркі днішча, 250у.а. Т.: 595-33-89

ЗАЗ-1103-07, Славута-ДЭУ, 2007г.в., прабег 8 тыс.км, белы. Т.: 8-029-942-38-35(в)

ЗІЛ-130, з дакументамі, з падоўжанай базай, нядорага. Т.: 8-033-308-74-29

## Куплю машыны, трактары, прычэпы, матацыклы:

Іншамарку ў любым стане. *Ліц.№22380\0037920 ад23.03.2004г. выд. Полацкім РВК да18.05.2013г.ІПФіліпсонС.І.-УНП223800390881* Т.210-3182(мтс), 641-88-36(в)+

Хутка куплю Ваш аўтамабіль. УНН391051730. Т.: 8-033-342-42-07(мтс)+4

Матацыкл «Мінск». Т.: 8-044-751-24-49

Іншамарку, можна аварыйную, ёсць эвакуатар. УНП 391054913. Т.: 8-029-518-12-59(мтс), 8-029-715-46-92(мтс)+9

Аўдзі В3, В4, А4, ФВ-Гольф-2,3,4, Вента, Джэта, Пасат В2, В3, В4, В5, або другую іншамарку, можна з праблемамі любога характару. Т.: 8-029-598-52-28(мтс)

Мікрааўтобус грузавы МБ-100. Тэл. 8-029 593-02-19

## Прадам трактары, прычэпы, матацыклы, лодкі:

Трактар, прычэп 4т, бульбасаджалку, плугі і іншы сельгасінвентар. Т.: 595-48-68*

Прычэп-аўтавоз для л\а, мікрааўтобуса, боеккманн, №941, 2000г.в., дазволеная нагрузка 2,5т, 1750 у.а. Т.:8-029-286-65-32(мтс)*

Фургон аўтамабільны 5,20х2,20х2,0. Т.: 8-044-756-23-82(в)*

## Прадам запчасткі:

Да Аўдзі-80, 100, 90, А4, В4, А6, А 8, В4, С4; БМВ-Е-39; Кіа-Кларус, Шума;Нісан-Прэм'ера;Опель 1995-2005г.в, ФВ-ГольфІІ, ІІІ, ІV, Джэта, Пасат В 3,4,5,6;Пежо-106,206, 306,405,406,806; Мазда-626, 6; Форд-Мандэа,Эскорт, Транзіт, Фокус, Гэлаксі; Рэно-19, Меган, Кліа,Лагуна 1, 2, Сцэнік, Эспайс;Ровер-214; Таёта-Карола,2006г;Ярыс; Хундай-Акцэнт, Поні; Вольва-440, 460, Вольва V40 ; ХС70; Дэо-Нубіра, Леганза; Мерседэс-W 201,W202,W210, Віта; Сітраен-Сакса, ZX, Эвазіон, Ксантыя, Ксара; Сеат-Таледа 1,2.;Сеат-Ібіца, Кардоба; Міцубісі-Лансер, Галант; Субард-Фарэстар,-2007г.в.Крайслер-Ваяджэр 2000г.в.Асартымент запчастак пастаянна змяняецца і папаўняецца мадэльны шэраг аўтамабіляў. Т:292-99-33(мтс), 338-71-83(в), 210-31-82 (мтс) *Ліц. №22380\ 0037920ад23.03.2004г.выд.ПолацкімРВК да 18.05.2013г. ІП ФіліпсонС.-І.УНП223800390881*+

Запчасткі б\у да іншамарак: ФВ-Пасат, Джэта, Вента, Гольф, Аўдзі-100, 80, Пежо-406, 605, 206, 307, Сітраен-Ксантыя, Эвазіон, Рэно-Сцэнік, 19, Меган, Лагуна, Форд-Эскорт, Сіера, Арыён, Фокус, Транзіт, Хундай, Акцэнт, Опель-Астра, Вектра, Амега. УНП 391054913. Т.: 8-029-715-46-92(мтс), 8-029-518-12-59(мтс)+9

Опель-Аскона Д і Опель-Кадет Б, па запчастках. Т.: 812-48-08 (мтс)**

Запчасткі да л\а і мікрааўтобусаў, вялікі выбар у наяўнасці і пад заказ, лабавое шкло,таксама кузаўное і оптыка,тасолы, шклаабмывальнікі, акумулятары, інструмент і многае іншае.Шыны для л\а. Шыны грузавыя новыя:Supertrin195\70\15C, 2 шт, 850 тыс. руб\шт; Белшына 185\75\16C, 2 шт, 700 тыс. руб\шт.Магазін «Бегемот» з 9.00 да 19.00 г.Глыбокае, вул.Леніна,87.ІП БеганК.Н. Т.: 8029-712-93-34(мтс)*

Гуму зімовую б\у 185\65\R14. Генератар ад Опеля з вакуумнікам. Шторка новая ад Фіат. Дыскі стальныя б\у ад Нісан, Таёта, Міцубісі. Т.: 8-033-611-04-98(мтс)

Сітраен-Ксантыя, 1993г.в., 1.8 8кл., па запчастках. Т.: 813-66-65(мтс)

Дыскі ад Форд-Гэлаксі, ФВ, жалезныя, на R15 і гуму 185\65\R14, зіма і С R14. Т.: 599-05-12(мтс)**

Опель-Вектра, 1989г.в., 2,0, цалкам на запчасткі. Т.: 595-91-26

Гуму б\у 225\60\R16, зіма, Кантыненталь, 300у.а. 4 шт. Т.: 515-04-31

Гуму да УАЗ, 3 шт., 150.000 руб за адну. Тэл.8-029-715-56-03

ВАЗ-2101, 1,3Б, на запчасткі. Т.: 4-21-02, 8-029-384-60-12

Рухавік да мапеда (Кітай), новы, 70см³, 2,9млн. руб. Т.: 8-029-630-38-30(в)

Рухавік да скутара кітайскай вытворчасці, 80см³, новы, 3,6 млн. руб. Т.: 8-029-810-37-20

## Куплю запчасткі

1 кола R14/195/70, «Матадор» пажадана з дыскам. Т.: 8-029-258-77-02**

## Прадам нерухомасць:

Недабудаваны дом у Глыбокім, вул. Саўгасная,3, фундамент, зруб, дах - андулін, 6250у.а. Магчыма растэрміноўка плацяжу. Т.:8029-286-65-32(мтс)*

Дом драўляны, абкладзены цэглай, можна пад дачу, Шаркоўшчынскі р-н, в. Пашкі, на беразе ракі Дзісна. Маецца сад, лазня, хлеў, гараж, лес, 850у.а. Т.:8-029-892-87-21(мтс)*

Кватэру 3-пакаёвую ў г.Полацку,9\9 панэльнага дома. Кухня 9,2м², пакоі 17м², 10,2м²,13,6м², зашклёная лоджыя і балкон, тэлефон, інтэрнэт, убудаваная кухня, мэбля,прыхожая-шафа-купэ, сан-вузел асобны,еўрарамонт.Т:+37529-5192153(мтс)

Дом па вул. Чырвонаармейскай, 18, ашаляваны, вадаправод, калодзеж, склеп, агарод 12 сотак, хлеў. Т.: 810-79-27; 267-96-91 (Самара)+1

Кватэру 3-пакаёвую. Побач агарод з гаспадарчымі пабудовамі. Т.: 518-96-15*

Гараж цагляны 4х6м у р-не вул. Садовай, накрыты шыферам, маецца яма з падвалам. Т.: 8-029-293-55-31(мтс)

Кватэру 2-пакаёвую ў Крулеўшчыне. Т.: 8-029-598-79-13

Дом, 88м², вада, каналізацыя, паравое ацяпленне, робіцца праект на газ. Т.: 215-41-81(мтс)*

Кватэру 3-пакаёвую з усімі выгодамі на 4-м паверсе, не вуглавая, у р-не МКК г. Глыбокае, агульная плошча 62м², туалет з ваннай асобныя. Лоджыя зашклёная, маецца тэлефон, 35000у.а., выдатныя суседзі. Т.: 306-26-84(мтс)*

Дом у в. Мацясы, Гатаўшчына і Забор'е. Т.: 595-48-68(мтс)**

Дом у Глыбокім. Т.: 213-01-39(мтс)*

Дом у Глыбокім, 2012 г.п., 70000у.а. Т.: 810-04-70(мтс)***

Кватэру 4-пакаёвую па вул. Мінскай. Т.: 8-029-599-43-68****

Дом у в. Станулі, 7 км ад Глыбокага, газавае ацяпленне, халодная і гарачая вада, тэлефон, каналізацыя, падлога - ламінат, плітка, сцены аштукатураныя драўляныя, вялікі сад з газонам, сажалка, хлеў, каменная агароджа,35000у.а. Т.: 810-04-70(мтс)***

Дом з усімі выгодамі, 50000у.а., торг. Вул. Будаўнікоў,44. Т.: 8033-308-27-55 (мтс)****

Дом у в. Крывое Пастаўскага р-на, разам з гаспабудовамі (лазня, хлеў), 50м², побач возера. Т.: 8-02144-514-35, 593-63-07(мтс)

Дом драўляны ў в. Абруб-Беразвецкі. Т.:+37529-552-09-69(мтс)*

Дом у Глыбокім з вялікім участкам, гараж 9х11м. Т.: 2-20-41, 593-92-37

Дом. Тэрмінова! Т.: 296-62-09**

Дом недабудаваны ў Глыбокім. Т.: 8-025-947-13-11(л), 8-029-212-05-01(мтс)

Паўдома, вул. Маскоўская, 44, кв.2. Т.: 3-44-45, +37529-829-67-38(мтс)***

Дом у цэнтры Падсвілля, каля ўнівермага. Т.: 8-017-263-70-69 (пасля 20.00)**

Дом, вул. Інтэрнацыянальная, 23. Т.: +37529-591-34-43(мтс), +37544-481-52-12(в)***

Кватэру 3-пакаёвую, 64,54\40,99\9,3м²,5-ы пав., 2 лоджыі, на паверсе ёсць добрая вялікая кладоўка, год пабудовы 1993, №129 Б, р-н МКК. Т.: 346-10-66, 710-61-43(мтс)***

Дом драўляны, ашаляваны, без выгод, ад Глыбокага 7км, в. Ст. Шунеўцы, тэлефон, хлеў, склеп, цяпліцы (пячное ацяпленне, печка, пліта), вялікі ўчастак зямлі 40 сотак. Магу здаць па продажу. Т.: 8-029-291-79-59(мтс)**

Паўдома, вул. Маскоўская, 44. кв.2. Т.: 3-44-45, 829-67-38(мтс)

Катэдж у 2-х узроўнях (вада, газ). Т.: 8-029-218-94-71*

Кватэру 2-пакаёвую ў Крулеўшчыне. Т.: 8-029-598-79-13***

## Куплю:

Гараж у раёне Беразвечча. Тэл. 2-94-57, 8-033 677-64-25

## Здыму:

Маладая пара здыме кватэру або дом з выгодамі. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т.: +37529-211-65-60(мтс), +37533-381-77-99(мтс)

Здыму 1-пакаёвую кватэру або пакой на працяглы тэрмін. Т.: 8-033-612-37-75(мтс)

Маладая сям'я здыме дом або кватэру ў Глыбокім. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т.: 593-30-96(мтс)

Маладая сям'я з 3-х чалавек здыме жыллё: дом або кватэру з выгодамі. Парадак і аплату гарантуем. Т.: 8-033-645-70-44(Люда)



* ЗАЎВАГА: калі ў абвестцы не пазначаны код горада, уладальнік тэлефоннага нумару знаходзіцца ў Глыбоцкім раёне.

## Здам:

Здам невялікую гандлёвую плошчу, м-н «Бегемот» на 2-м паверсе.
Т.: 8-029-757-37-70, 8-029-712-93-34(мтс), або звяртацца ў м-н «Бегемот», г. Глыбокае, вул. Леніна, 87 з 9.00 да 18.00*

Здам у арэнду гараж з ямай і ацяпленнем для рамонту л\а і мікрааўтобусаў.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)*

У гандлёвым цэнтры «Для Вас» здаюцца памяшканні ў арэнду, 14м$^2$ і 30м$^2$. А таксама асобна стаячы павільён 16м$^2$. Т.: 2-31-29 (з9.00 да 17.00)+2

Здам у арэнду гандлёвую плошчу 25м$^2$.
Т.: 8-029-184-36-46

Здаецца 2-пакаёвая кватэра.
Т.: 8-025-765-28-18(л)

Здам гараж па вул. Садовай.
Т.: 8-029-710-38-53(мтс), 8-044-783-33-64(в)*

Здам дом драўляны сям'е, цёплы, на працяглы тэрмін. Т.: 8-029-517-57-37

## Мэбля на продаж:

Кухні новыя, вуглавыя, даўжыня 3,5м, выбар варыянтаў і колеру, элітныя, усё ў наяўнасці, 6млн. 100 тыс руб. УНН391054834 выд. Глыбоцкім РВК 22.03.2010г.
Т.:8-029-714-00-74(мтс)*

Люстру з люстэркам на 6 лямпачак, б\у.
Т.: 811-03-20***

Кухню б\у, нядорага.
Т.: 8-033-675-75-68

Прыхожую, крыху б\у.
Т.: +37529-714-67-66

Стол камп'ютарны, 200 тыс. руб. Стол пісьмовы, 150 тыс. руб. Усе б\у.
Т.: 8-033-645-16-27

Трыльяж, мяккае крэсла. Усё б/у.
Тэл. 8-033-336-76-96

Прыхожую, люстэрка, шафу з люстэркам, паліцу для абутку.
Т.: 293-23-52(мтс), 3-19-38

## Прадам аўдыё- відэа, музычныя інструменты:

Відэарэгістратар.
Т.: 813-99-99+

## Куплю аўдыё- відэа, музычныя інструменты:

Балалайку.
Т.: 517-46-14+

## Прадам камп'ютары:

Камп'ютар б\у, добры стан, 1,5млн. руб.
Т.: 716-28-26(мтс)

Камп'ютар Intel 9500 4-ядзерны, відэакарта GTX 560 гі, 500 Гб, ОЗУ-4Гб.
Т.: 8-029-590-63-60

## Катлы. Сантэхабсталяванне:

Кацёл для лазні (бані) высокапрадукцыйны, жарастойкая сталь, 310у.а. Т.8029-286-65-32(мтс)*

Катлы «Камфорт» і іншыя, нядорага.Магчыма растэрміноўка. Мадэлі таксама розныя: на дровах, вугалю, брыкеце з магчымасцю падключэння прыроднага газу. Нядорага. Душавыя кабіны,боксы. Распродаж. Труба вадаправодная, паліэтыленавая, 25-ка, 8700 руб\метр. Розная бытавая тэхніка: халадзільнікі, газавыя пліты, эл\інструмент, посуд, карнізы, шпалеры, будаўнічыя матэрыялы і гаспадарчыя тавары. М-н «Бегемот»,вул.Леніна,87. Т.:2-41-01(з9.00да18.00)*

Катлы новыя, вялікі выбар, са склада прама па цэнах завода вытворцы + дастаўка,КС-ТГВО-25= 5450000 руб,КС-ТГВД-20=6150000 руб, КС-Т-25У (Камфорт)=-7170000руб, эксплуатуюцца на дровах, брыкеце і вугалю, сартыфікаваныя, з завадской гарантыяй, вытв. РБ., з магчымасцю падключэння прыроднага газу. Высокапрадукцыйныя, эканамічныя, з убудаваным асобным бойлерам для гарачай вады для кухні, ванны, газагарэлачныя прыстасаванні для эксплуатацыі дадзеных катлоў на прыродным газе (дадаткова 890000руб).УНН 391054834 выд.22.03.2010г Глыбоцкім РВК.
Т.: 8-029-714-00-74*

## Прадам будматэрыялы:

Уцяпляльнік «ROCKWOOL» павышанай шчыльнасці, для падлогі, сцен, дахавых перакрыццяў, фасадаў будынкаў, можна выкарыстоўваць пад штукатурку або сцяжку. Пластык сценавы, паталочны, сайдзінг. Бляху (жэсць) ацынкаваную, дзверы міжпакаёвыя. Распродаж. Нядорага.Магазін «Бегемот», вул.-Леніна,87(з 9.00 да 18.00)
Т.: 2-41-01*

Батарэі чыгунныя б\у.
Т.: 677-53-33(мтс)

Жалезную агароджу, 8 пралётаў. Т.: 713-63-11

## Куплю будматэрыялы:

Трубы металічныя б\у для агароджы, дыяметр не менш 5см.
Т.:+37533-612-61-73(мтс)**

## Прадам тэлефоны:

Аксэсуары (батарэйкі, карпусы і інш.) ІП Сядова Н.У. УНН 391055205;
Т.: 813-99-99+

Nokia-5800 Xpress Music.
Т.: +37529-899-56-46(мтс)

Nokia-2310, крыху б\у, чорны, з ліхтарыкам, у добрым стане,35у.а.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)*

Nokia-3, ТВ 71, б\у.
Т.: 514-68-60

Nokia-6233, 30у.а.
Т.: 714-14-73(мтс)

Nokia-6300, б\у, 350 тыс. руб.Nokia-2730, б\у, 400 тыс. руб.
Т.: 8-029-712-99-10

Nokia, усе опцы, арыгінал, 450 тыс. руб.Samsung, сенсорны, 2.0 камера, блютуз, флэш-карта, навушнікі, МР-3, Мр-4, інтэрнэт і г.д., 470 тыс. руб. Т.: 372-44-37

Samsung-GT 30H, новы, гарантыя, усе опцы, 600 тыс. руб.
Т.: 336-50-43(мтс)

Samsung- S-5610, дакументы, 95у.а.
Т.: +37529-816-04-26(мтс)

Sony-Ericson, усе опцы, навушнікі, флэш-карта, 2,0 камера, блютуз, інтэрнэт, МР-3, МР-4, 320 тыс. руб.
Т.: 8-025-722-19-73

LG, сенсорны. вялікі дысплей, камера, блютуз, Мр-3, МР-4, інтэрнэт, флэш-карта 2 Гб, навушнікі і г.д., добры стан, 480 тыс. руб. Т.: 614-01-41

## Бытавая тэхніка і газавае абсталяване на продаж:

Халадзільнікі «Індэзіт», новыя, высокія, гарантыя, 3370000руб.УНН 391054834 выд. 22.03.2010г.Глыбоцкім РВК.
Т.:8-029-714-00-74(мтс)*

Распродаж! Бойлеры электрычныя воданагравальныя «Фэролі», энергаэканамічныя, новыя, гарантыя, дастаўка,125000-0руб.УНН 391054834 выд. 22.03.2010г.Глыбоцкім РВК.
Т.: 8-029-714-00-74(мтс)*

Халадзільнікі «Індэзіт», розныя мадэлі, вялікі выбар, нядорага, магчыма растэрміноўка, м-н «Бегемот», 2-і паверх (салон халадзільнікаў). Пліты газавыя«Індэзіт»,«Mastercook», еўрапейскай зборкі, распродаж, 2750000руб., дапамога ў дастаўцы.Сокавыціскалкі «SEVERIN», вытв. Германія,нядорага.Вул.Леніна,87.Т.:2-41-01 (з 9.00 да 18.00)*

Халадзільнік 2-камерны.
Т.: 517-46-14+

Тэлевізар «Філіпс», 32 дз. кінескоп.
Т.: 8-029-590-63-60

Халадзільнік «Веко», новы, 3500000 руб, магчыма растэрміноўка.
Тэл. 8-033 359-80-34

Тэлевізар "Гарызонт", нядорага. Т. 8-02157-2-23-75, 8-044 797-48-57

## Прадам еміну:

Яблыкі дамашнія, зімовыя гатункі. Г. Глыбокае, вул. Шпітальная, 15А.
Т.: 2-35-84

Тушу кабана.
Т.: 3-10-72, 317-35-29

Тушу кабана.
Т.: 8-029-345-28-22(мтс), 290-60-30

Тушу кабана.
Тэл. 8-029-897-55-71

Тушу кабана 80кг.
Т.: 8-033-345-27-91

Бульбу кармавую, 40кг - 40 тыс. руб.
Т.: 8-029-774-88-29(мтс)

Свінню на мяса.
Тэл. 8-029-249-75-92

## Куплю еміну:

Часнок, кмін, фасоль.
Т.: 677-53-33(мтс)*

## Прадам жывёлу, пчол, рыбак:

Парасят в'етнамскай пароды, в'етнамскага кабана. Т.: 677-46-15

Парасят в'етнамскіх (белыя і чорныя).Т.8029-294-01-78, 3-02-21

Трусоў, веліканы, па 50 тыс. руб. Т.: 595-33-89

Шчанят йоркшырскага тэр'ера з радаслоўнай.
Т.: 8-029-716-63-71*

Парасят (ландрас).
Т.: 8-02157-3-19-07, 8-033-654-62-01

Трусоў пародзістых, або мяса, 60 тыс. руб\кг.
Т.: 613-03-57(мтс)

Карову высокаўдойную 4-х ацёлаў.
Т.: 8-029-713-78-43(мтс)

Трусоў пародзістых, на племя.
Т.: 8-029-768-36-95(мтс)

Трусоў на племя пароды: фландар і французскі баран. Глыбоцкі раён. Тэл. 8-033 696-47-44

Свінаматку, апарос у пачатку лютага.
Т.: 8-029-218-04-55

Парасят, кабанчыкі па 20кг і больш, свінкі для пакрыцця, падсвінкі па 40-60кг.
Т.: 3-29-40

Авечак на мяса.
Т.: 8-029-294-03-40

Парасят в'етнамскай пароды (600.000 - руб. пара), дарослага кнура, 700.000 руб. Шаркоўшчына. Тэл. 802154 4-31-95, 8-029 968-48-78

## Куплю жывёлу:

Дорага быка, карову, цяля, каня, а таксама вымушаны забой. Т.:8029-718-09-21*

Дорага быка, карову, цяля.
Т.: 8-029-899-25-42+13

Дорага быка, карову, цяля, авечак.Т.:8029-716-91-78+13

**Карову, быка, цяля, цялушку, авечак, каня - на мяса. Дорага.**
**Т.: 241-69-68(мтс), 904-66-36(в), 3-16-97**

Дохлю скаціны.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)*

Патрэбен кабель стаорардшырскага тэр'ера для вязкі. Т.: 8-029-592-44-16*

Буйную рагатую жывёлу: карову, каня, авечак.
Т.: 8-029-719-05-79

Быка, цяля, карову, каня.
Т.: 597-59-08(мтс)***

## Аддам жывёлу:

Аддам прыгожых пухнатых кацянят, прывучаных да латка.
Т.: 8-033-378-13-22

Аддам сабаку ў добрыя рукі. Т.: 2-32-29

## Прадам тавары для дзяцей:

Каляску дзіцячую Джып, вішнёвая, л\з варыянт. Т.: 218-81-11(мтс)

Каляску Джып, поўная камплектацыя, бардовая.
Т.: 3-19-48, 891-38-41*

## Прадам адзенне, абутак:

Куртку жаночую. Джынсы, 250 тыс. руб., новыя, вытв. Італія. Т.: 8-029-297-97-28

Чаравікі мужчынскія зімовыя, новыя, карычневыя, п-р 43-44, 570 тыс. руб.
Т.:8-029-286-65-32(мтс)*

Куртку скураную мужчынскую ўцепленую, натуральная скура,п-р 54-56, крыху б\у, 155у.а.
Т.:8-029-286-65-32(мтс)*

Дублёнку мужчынскую, натуральную, падоўжаная, п-р 54-56, крыху б\у, 210у.а.
Т.:8-029-286-65-32(мтс)*

Боты мужчынскія 45 памеру новыя, дутыя боты 44 памеру новыя, боты 44 памеру б\у. Т.: 648-37-01, 2-35-93

Чаравікі жаночыя, натуральны мех, новыя, «Белвест», п-р 40, кошт па дамове. Т.: 2-35-73

## Прадам паліва:

**Прычэп дроў з дастаўкай.**
**Т.: 514-21-76(мтс)+23**

Дровы з дастаўкай.
Т.: 216-11-77(мтс)

Дровы з дастаўкай, 1 млн. руб.
Т.:8-029-286-65-32(мтс)*

Дровы, 6 кубоў, 1350000руб.
Т.:8-029-892-87-21(мтс)*

Машыну дроў з дастаўкай.
Т.: 8-029-517-63-64

Машыну абрэзкаў з дастаўкай.
Т.: 8-033-336-38-36

Дровы.
Тэл. 8-033 676-02-92

Дровы з дастаўкай.
Тэл. 8-029-816-06-74

## Прадам сельгасінвентар:

Сані. Т.: 3-18-54

## Куплю зерне:

Зерне. Т.: 8-029-593-35-07

## Прадам тавары для здароўя:

Бабровая струя, 1 пара-\470тыс. руб, высушаная, здрабнёная. Эфектыўна вылечвае страўнік, падстраўнікавую залозу, атэрасклероз, цiск, ачышчае печань і сасуды ад халестырынавых бляшак,узнаўляе і ўзмацняе патэнцыю, аказвае амалажваючае і агульнаўзмацняючае дзеянне на ўвесь арганізм і многае-многае іншае. З'яўляецца ўнікальным лячэбным прыродным сродкам, які не мае аналагаў.
Т.:8029-120-82-52(в)*

Актываатар для вытворчасці «Жывой» і «Мёртвай» вады, 870000руб.«Жывая» і«Мёртвая» вада мае шырокі спектр дзеяння: вылечвае ад лішняй вагі, атлусцення, алкагольнай і табачнай залежнасці, узнаўляе абмен рэчываў, выводзіць шлакі з арганізма, пазбаўляе ад камянёў у нырках і печані,мнагакратна павялічвае патэнцыю, рассасвае эрозію шыйкі маткі, дапамагае ўзнавіць і палепшыць сон, заспакойвае нервы, амалажвае, узмацняе ўвесь арганізм і імунітэт у цэлым. Унікальны прыбор вытв. РБ. Ліцэнзія-.Афіцыйны сертыфікат МінРБ. НН391054834 выд.22.03.2010г. Глыбоцкім РВК.
Тэлефон для кансультацый і набывання:
8-029-120-82-52(в)*

## Спартыўны інвентар прадам:

Гантэль-штангу 45кг.
Т.: 8-029-774-88-29(мтс)

Канькі фігурныя 35 п-р, Швецыя, б\у.
Т.: +37529-101-83-10

## Куплю калекцыі:

Старыя манеты, значкі, званочкі, радыёпрыёмнікі, грамафон, бяспечную брытву.
Т.: 8-02156-2-94-40, 8029-510-43-80**

## Іншае:

В\ч 7404 г. Глыбокае запрашае на ваенную службу па кантракту мужчын да 34-х гадоў.
Т.: 710-33-66

## Здам іншае:

Здам будаўнічыя рыштаванні (леса) у арэнду, з разліку 6х6м= 150000руб\-суткі ад 5 дней, да 5 дней - 250 тыс.руб\суткі, можна любы памер.УНН391054834 выд. 22.03.2010г Глыбоцкім РВК.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)*

## Прадам электратавары:

Бетонамяшалку на 220В,155у.а. Бензапілу «Шціль-180»,арыгінальная,-1мес.б\у,210 у.а.. Прафесійны перфаратар-дыракол, з адбойнікам, 1 мес. б\у,110у.а. Шрубавёртдрэль «Евротех», новы, пад 220В, 520 тыс. руб. Шрубавёрт DWT б\у, 320 тыс. руб.
Т.:8029-249-98-31(мтс)*

Набор інструментаў: шліфмашынку, дрэль, эл\лобзік. Кошт па дамове.
Т.: 514-68-60

## Прадам іншае:

Жорны старынныя, для машчэння двароў, abліцоўкі фундамента, упрыгожвання інтэр'ераў, 10 шт., 125 тыс.руб/за штуку.
Т.:8029-120-82-52(в)*

Ёмістасць малочную з нержавейкі, на 1000л са станінай і злівам, 370 у.а., ёмістасць з ацынкоўкі на 200л, 270 тыс. руб.
Бочку жалезную пад паліва, 110 тыс. руб. Сейф, 110у.а.
Т.:8029-286-65-32(мтс)*

Ёмістасць пад каналізацыю 4м$^3$. Т.: 595-48-68**

Пілу «Партнёр».
Т.: 3-18-54

## Куплю іншае:

Нявырабленыя мех дзікіх жывёл: куніцы, лісы, янота, бабра, харка.
Т.:8-029-298-88-43(мтс), 8-029-922-10-40

Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

## Паслугі:

Аксэсуары для мабільных тэлефонаў (батарэйкі, карпусы і інш.) ІП Сядова Н.У УНН391055205. Т.:813-99-99+

**Выканаю мантаж сістэм ацяплення і вадаправода поліпрапіленам і іншым матэрыялам, а таксама: усталяванне газавых і ц\паліўных катлоў *укладка цёплай падлогі, зборка і падключэнне душавых кабінаў і інш. сантэхнікі*урэзка лічыльнікаў вады і цяпла *выканание эл\газазварачных работ. Акажу дапамогу ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. Хутка. Якасна.Гарантыя.** ІП Новік УНН391052765- ад30. 03.2009г. **Т.596-6501** (МТС), **483-45-03(В)**+

**Усталяванне газавых катлоў любой вытворчасці (пад ключ). Мантаж сістэмы ацяплення і вадаправода поліпрапіленам і іншымі матэрыяламі.Сантэхнічныя работы любой складанасці. Зварачныя работы любой складанасці (газа\электразварка). Акажу дапамогу ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. Хуткаць!Якасць! Гарантыя!** Ліц.11170 ад 21.09. 1999г. **Т.:713-61-94(МТС)**+

Разлік актаў выкананых работ і іншых дакументаў у будаўніцтве, кошт ад 300 тыс. руб. УНП 390529274. Т.: 8-029-708-40-65(мтс)+9

Рэстаўрацыя ваннаў, паддонаў душавых кабінак, умывальных ракавін; эмаліроўка (колер на выбар); мастацкае афармленне; наліўных ваннаў (вадкі акрыл), тэрмін службы 15-20 гадоў. Ёсць гарантыя. І ПН.Н.Пазняк.- УНП391240879. Т.: 8033-306-29-89; (802156)2-63-71

Грузаперавозкі, Глыбокае і РБ да 5,5т, фургон, 36 куб.м, памер 6,4х2,25х2.35м. УНН 390029307. Т.: 8-029-899-82-91(мтс) (Міхаіл)+8

Будаўнічыя работы любой складанасці. Устройства дахаў. Фасадныя работы. Кладка блокаў. Усе віды ўнутраных работ. Гіпсакардон сцены-паталкі. Устаноўка дзвярэй. Устройства падлогі. Аддзелка ўнутраная і вонкавая сайдзінгам. УНН391071961. Т.: +37529-717-29-41(мтс), +37544-747-15-94(в) (Дзмітрый)***

Падыманне дамоў любой складанасці. Вялікі вопыт работы. Увесь неабходны матэрыял у наяўнасці. Хутка, якасна. УНН391071961 Т.: +37529-717-29-41(мтс) (Дзмітрый)***

**Выраб і ўстаноўка помнікаў з гранітнай крошкі і карэльскага граніту. Укладка пліткі, бардзюра.** Пасв. №391052382 выд. Глыбоцкім РВК 13.09.2009г. Цяліца І.П. **Т.: 515-32-56(мтс), 2-55-24**

**Рамонт Вашага аўтамабіля ў зручны для Вас час на вул. Савецкай,178 (каля жаночага манастыра). УНН390496961. Т.:8029-295-63-30 (Дзяніс), 8033-320-67-55 (Сяргей)*****

## Шукаю працу:

Устанаўлю ацяпленне, газавы кацёл, душавую кабіну,бязбашанку. ПВХ, ламінат, плітка, адкосы, дзверы, сантэхніка, электрыка. Дастаўка матэрыяла, дапамога ў выбары.Без шкодных звычак. Т.:595-48-68+

Шукаю працу: маю адукацыю курсы бухгалтара, навыкі карыстання ПК. Разгледжу розныя прапановы. Т.:+37529-211-65-60(мтс)

Распілую дровы па гораду і з выездам на вёску. Т.: 8-025-852-92-85(л)

Дагледжу чалавека. Т.: 8-029-918-34-23(в)

Дзяўчына шукае працу, адукацыя сярэдне-спецыяльная, стаж працы прадаўцом 2 гады. Тэл. 8-033-677-94-35

Зраблю камп'ютарную дыягностыку аўтамаабіля. Т.: 8-029-293-23-82

## Прапаную працу:

Патрабуецца вадзіцель-грузчык кат. В, С, без шкодных звычак, да 40 год. Т.: 8-029-716-28-26(мтс)

Патрабуецца парыкмахер. Т.: 716-63-71(мтс)

Патрабуюцца вадзіцель-грузчык катэгорыі В, зарплата ад 80 тыс. руб.да 150 тыс. руб\дзень, падсобныя рабочыя, ад 80 да120 тыс. руб\дзень, рознарабочыя, ад 80 да 120 тыс. руб\дзень. Пасв. №391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-892-87-21(мтс)*

Патрабуецца вадзіцель на грузаперавозкі па РБ-РФ з вопытам работы. Т.: +37529-715-64-14+6

Патрабуецца прадавец электратавараў. Т.: 8-029-755-42-91*

У залу гульнёвых аўтаматаў патрабуецца касір. Т.: 8-029-598-79-13*

## Згуба:

30.12.2012г у р-не вул. Садовай, 34 вечарам прапаў сабака, кабель. Прыкметы: ростам з кошку, рыжы, на грудзях белая пляма, пярэднія лапы крывыя, клічка Чарлі. Знайшоўшага просьба вярнуць за ўзнагароду. Т.: 8-029-295-59-95 (мтс)

Каля магазіна «Аазіс» знойдзены ключы з чыпам. Звяртацца ў магазін «Аазіс».

Прапаў даверлівы сабака пароды мопс. Просьба вярнуць за ўзнагароду. Т.: 8-033-697-59-62

Згубіўся сабака ў р-не манастыра, мопс, акрас шэра-чорны. Просім вярнуць за ўзнагароду. Т.: 8-029-890-53-61(мтс)

## Усміхніцеся

Скажите, а где вы шили свое платье?
- В Париже!
- Это далеко от Москвы?
- Это 2865 км.
- Ну надо же…такая глушь, а так шьют!

***

Тёща говорит зятю:
- Сынок, когда я умру, не хороните меня, а сожгите... И пепел рассыпьте вот здесь, во дворе.
Зять отвечает:
- Нет уж, мама, чуть-чуть ветерок, и вы опять в доме!

***

Роскошно одетый молодой человек в красном пиджаке на краю огороженного пастбища спрашивает горца - пастуха:
- Вы разрешите пройти к автовокзалу через ваше пастбище? Я опаздываю на автобус, отходящий в 6-45.
- Пожалуйста! Кроме того, если вас увидит мой бык, то вы можете успеть на автобус, который отправляется в 6-15.

## ІМЯНІНЫ

**9 студзеня**
**Пр.:** Сцяпана, Фёдара.
**К.:** Юльяны, Тэрэзы.

**10 студзеня**
**Пр.:** Агафіі, Дарафея, Зіновія, Ігната, Ніканора, Пятра, Феафіла, Яфіма.
**К.:** Вільгельма, Рыгора, Яна.

**11 студзеня**
**Пр.:** Ганны, Варвары, Наталлі, Івана.
**К.:** Мацільды, Ганараты, Марка, Аляксандра.

**12 студзеня**
**Пр.:** Макара, Марыі, Фёдара.
**К.:** Часлава, Аркадзя, Таццяны.

**13 студзеня**
**Пр.:** Пятра, Маланні.
**К.:** Багуміла, Веранікі.

**14 студзеня**
**Пр.:** АБРАЗАННЕ ГАСПОДНЯЕ, Аляксандра, Васіля, Вячаслава, Івана, Міхаіла, Мікалая.
**К.:** Фелікса, Ніны, Марыны.

**15 студзеня**
**Пр.:** Серафімы, Ульяны, Сільвестра.
**К.:** Паўла, Макара, Арнольда.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Хвалебная речь | | Математический знак | | Земные глубины | Брусиловский ... | | Искусственный язык | Мусульманский судья |
| | | | | | | | | |
| Франц. философ, писатель | | Нет | | Часть слова | Жанр поэзии | | | |
| | | | | | Клан | | | |
| "Мадемуазель поет блюз" | | | | | ЗИЛ | | Термическая рана | |
| Горнолыжный ... | | Мясное блюдо | Большая катушка | | | | | |
| | | | | | | Попечение, опека | | Холодное оружие |
| Мороз | Боярские хоромы | | Старинная зимняя повозка | | | | | |
| | | | | | Ядовитая жаба | | | |
| Общественный ... | | Роман Жорж Санд | | Детский ... | ...-мезон | | Город на Тибре | |
| | | | | | | | | |
| Отвратительный запах | | Внезапная догадка | | | | | | |
| | | | | | Округ в Дании | | | |

**Ответы на сканворд №01**
**По горизонтали:** Полуфинал. Воз. Око. Ном. Еры. Ташкент. Стон. Люблин. Ерлы. «Аида». Морг. Унжа. Соул. Гну. По. Амба. Кран.**По вертикали:** Фото. Чудо. Див. Разор. Нонет. Кошт. Мыс. Меню. Астроном. Колымага. Жид. Барсук. Лиго. Навлон. Упа.

## Гараскоп
### на новы тыдзень



**АВЕН.** На гэтым тыдні верагодна багацце інфармацыі, з якой будзе складана вылучыць галоўнае. Вы можаце справакаваць канфліктную сітуацыю з калегамі па працы. У пачатку тыдня вам давядзецца адстойваць свае праекты і планы. У гэты час вы зможаце гуляючы справіцца з назапашанымі дробнымі справамі. У другой палове тыдня, калі з'явіцца такая магчымасць, пагутарыце з жывой прыродай, каб папоўніць выдаткаваныя сілы. Паспрабуйце не блытаць староннiх людзей у свае сямейныя праблемы.



**ЦЯЛЕЦ.** У пачатку тыдня адпачніце ад мітусні і клопатаў, не пашкадуйце часу на сябе каханага. На гэтым тыдні ваша сур'ёзнае і добрасумленнае стаўленне да працы ўжо дакладна не застанецца незаўважаным. Вам можа паступіць вельмі цікавая і сур'ёзная прапанова, якая падыме ваш аўтарытэт у вачах асяроддзя. Наступае спрыяльны момант для канкрэтных дзеянняў, адказных крокаў і іншых лёсавызначальных прадпрыемстваў. У сярэдзіне тыдня можа сарваецца важная дзелавая сустрэча, калі магчыма, лепш прызначыць яе на іншы дзень.



**БЛІЗНЯТЫ.** На гэтым тыдні не спрабуйце вырашаць усё з дапамогай сілы і не перабольшвайце значэнне волі. Затое ўспрымальнасць і гнуткасць дазволяць набыць у асобе імгненных партнёраў сапраўдных аднадумцаў. У сярэдзіне тыдня вы можаце апынуцца перад неабходнасцю выбару, дзейнічайце спакойна, разумна і без спешкі. Не пачынайце рэалізацыю задуманага, пакуль не адчуеце ўпэўненасць ва ўласных сілах, і нікому не дазваляйце ўстаўляць вам палкі ў колы. Выбірайцеся ў выхадныя на прыроду і правядзіце час у кампаніі сяброў, зрабіце толькі свята і не думайце аб праблемах.



**РАК.** Усё ідзе добра, калі не лічыць адной зусім нязначнай, але вельмі непрыемнай штукі, і імя ёй - лянота. Калі вы зможаце яе пераадолець, то ўсё будзе выдатна. Прапануйце начальству свае ідэі, планы і праекты, яны рэалістычныя, а значыць, хутка ўвасобяцца ў жыццё. Імкніцеся адкрываць для сябе нешта новае, тады вы адчуеце, што ў чымсьці сталі мудрэй. Новыя веды, атрыманыя на гэтым тыдні, расчыняць перад вамі цікавыя перспектывы.



**ЛЕЎ.** Вы поўныя сіл і рашучасці, нястрымнае імкненне наперад дазваляе вам змятаць на сваім шляху ўсе перашкоды. Вы здолееце зрабіць практычна ўсё, за што б вы не браліся. Некаторыя цяжкасці, якія ўзніклі ў пачатку тыдня, не стануць перашкодай для праявы прафесіяналізму, а вось з уласнай упартасцю давядзецца змагацца сур'ёзна. Паспрабуйце захоўваць добрыя адносіны з начальствам, бо ад яго можа залежаць вырашэнне адразу некалькіх вашых праблем.. Маючы зносіны з калегамі па працы, будзьце карэктныя ў фармулёўках.



**ПАННА.** Тыдзень неардынарны і творчы. Калі вы запланавалі падарожжа, то яно будзе багата ўражаннямі і падзеямі. Самы спрыяльны дзень - нядзеля. Усю першую палову тыдня фартуна будзе ўсміхацца вам. На працы, ды і наогул у дзелавых адносінах, магчымыя перспектыўныя прапановы ад далёкіх партнёраў, а таксама доўгачаканы прыбытак ад кантрактаў. На гэтым тыдні ёсць шанец шмат чаго дамагчыся і дасягнуць. Не забывайце пра адпачынак, бо назапашаная стомленасць можа нагадаць пра сябе ў самы непадыходны момант.





**ВАГІ.** Калі ваш адпачынак паспеў ужо скончыцца, наадварот, яшчэ і не думаў пачынацца, то ўсю вашу ўвагу неабходна засяродзіць выключна на пытаннях, звязаных з працай. Пры гэтым пажадана прысвячаць сілы і час толькі тым задачам, якія вы ў стане вырашыць. Паспрабуйце на гэтым тыдні не фарсіраваць падзеі, і тады засяроджанасць і шпаркасць рэакцыі дазволяць вам справіцца з пастаўленымі задачамі. У выхадныя вас можа ахапіць творчы парыў. Паспрабуйце ўвасобіць думкі ў нешта рэальнае. У выхадныя выкарыстоўвайце любую магчымасць, каб адпачыць.



**СКАРПІЁН.** Гэты тыдзень прамільгне нібы ў калейдаскопе: змяненне вашых планаў, пераменнасць у службовых справах. Калі нешта не будзе атрымлівацца, паспрабуйце не ісці напралом, адкладзіце справу на некалькі дзён. Чым менш вы будзеце казаць услых аб сваіх намерах і планах, тым хутчэй яны ажыццявяцца. Не дазваляйце апатыі і ляноце падабрацца да вас занадта блізка і зацягнуць у свае сеткі. Паспрабуйце не ладзіць сваркі па дробязях са сваімі хатнімі, ні да чаго добрага гэта не прывядзе.





**СТРАЛЕЦ.** На гэтым тыдні ўпэўненасць ва ўласных сілах і аптымізм дапамогуць заваяваць распалажэнне навакольных і ўмацаваць адносіны з начальствам. Калі паўстане неабходнасць, можна смела спадзявацца на падтрымку з боку сяброў. Вы можаце істотна абнавіць свае веды, тым самым скокнуўшы на новую прыступку.У канцы тыдня, пасля бесперапыннай мітусні, вас будуць чакаць вельмі прыемныя падзеі, пра якія вы так доўга марылі. Сканцэнтруйцеся на новых творчых планах, а пачынаючы з суботы, прымайцеся за іх ажыццяўленне.





**КАЗЯРОГ.** На гэтым тыдні вас чакаюць удалыя сустрэчы з важнымі людзьмі, ад якіх будзе залежаць лёс вашых праектаў. Цалкам могуць наладзіцца адносіны з дзецьмі і суседзямі. Наступае падыходны час для набыцця ведаў, прычым у любой вобласці - ад кулінарыі да эзатэрыкі. Дапамога сяброў у другой палове тыдня апынецца вельмі своечасовая. Бытавая тэхніка можа паднесці не вельмі прыемныя сюрпрызы. У выхадныя памятайце, што прыгоды бываюць не толькі цікавымі, але і небяспечнымі.

**ВАДАЛЕЙ.** На гэтым тыдні Вадалеям прыйдзецца засяродзіць свае сілы на вырашэнні фінансавых пытанняў. Магчымыя складаныя, заблытаныя камбінацыі, у якіх вам давядзецца не толькі праяўляць самастойнасць, але і знаходзіць агульную мову з партнёрамі па бізнесе. Апошнія могуць прад'яўляць масу матэрыяльных прэтэнзій, вам прыйдзецца лавіраваць, каб адстаяць свае фінансы, становішча і незалежнасць. Дома верагодныя праблемы з дзецьмі, асабліва з падлеткамі.

**РЫБЫ.** На гэтым тыдні Рыбам трэба стварыць трывалы і надзейны падмурак для спрыяльных умоў працы і творчасці. Апусканне ў працу павінна быць камфортным без рэзкіх рухаў і моцных узрушэнняў. Калі нешта не атрымоўваецца адразу, не хвалюйцеся: хутка вы з усім справіцеся і зможаце адпачыць. Да канца тыдня скончацца цяжкасці і перажыванні, а вы зможаце атрымаць асалоду ад выкананай працы і яе прыемных наступстваў. Выхадныя - выдатны дзень для наведвання рэстарана, тым больш, калі вас туды даўно запрашалі сябры ці каханы чалавек.


ISSN 2077-8023
9 772077 802009

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік:
Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 08.01. 2013 г. у 20[50]
Наклад 2200 паасобнікаў

Рэдактар:
Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 2-46-14;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
211800, г. Глыбокае, п/с №3

Замова 8

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.

Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. №02330/0150475 ад 25.02.2009
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае